PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1875) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 19 КРАСАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## КРЫХУ АБ ПАБУДОВЕ МУЗЕЯ

Рэвізійная камісія Грамадскага камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы 12 сакавіка гэтага года правяла чарговы кантроль яго працы. Спачатку пазнаёмілася са станам будаўнічых прац. Вядуцца яны ўвесь зімовы перыяд ў частцы „Б" музейнага будынка, дзякуючы падключэнню яго да гарадской ацяпляльнай магістралі, а таксама лагоднай, спрыяльнай такім працам зіме. Неспрыяльным чыннікам з'яўляецца настаянны недахоп фінансавых сродкаў. Нельга сабе нават уявіць саманачуццё членаў праўлення гэтага камітэта, калі амаль заўсёды пустуе каса. Баланс на канец 1991 года яшчэ не падведзены. Але яго паўгадовая частка выказвае ўсяго каля 12 мільёнаў злотых (у банку і касе). Планаваныя сумы на пабудову не малыя, але пэўных, на якія можна разлічваць без рызыкі, даволі абмежаваныя. У мінулым годзе атрымана з Міністэрства культуры і мастацтва 500 мільёнаў злотых, рэшта — гэта ахвяраванні.

І ўсё ж будова ідзе. У частцы „Б" закончаны гідраўлічныя працы, пакладзены тынкі, керамічныя падлогі, выканана ўнутраная сталярка. Набліжаецца заканчэнне галоўных прац, пачнецца дэкаратыўная абложка сцен мармурам. У частцы „Ц" музейнага будынка пачалася набудова сцен апошняга паверха. Звезена ўжо цэгла і іншыя будаўнічыя матэрыялы.

Затым праведзены аналіз аплочвання складчын членамі грамадскага камітэта. Сумны тут вобраз. На 293 падпісаныя членскія дэкларацыі мноства асталося без ніякіх складчын і іх нельга лічыць членамі. Але ў апошнім, 1991 годзе не ўнесла поўных 60 тысяч гадавой складчыны каля 130 чалавек, у тым ліку большасць слаўных дзеячоў іншых беларускіх арганізацый. Паводле слоў мясцовых будаўнікоў, яны ніколі не цікавіліся пабудовай музея. Пісьмовыя паведамленні аб задоўжанасці зараз вельмі дарагія, таму іх не будзе. Але штатныя працаўнікі ГП забавязаліся напісаць ім лісты і даручыць іх у ГП, рэдакцыю „Нівы" і ў праўленне Грамадскага камітэта пабудовы музея, якія знойдуць магчымасці перадаць іх зацікаўленым.

Разгледжаны таксама бягучыя фінансавыя выдаткаванні. Складаюць яны ўжо немалую суму — 110 мільёнаў злотых у год. Тут найбольш грошай паглынае абаграванне і электраэнергія (каля 30 млн. злотых), тэлефоны і карэспандэнцыя (14 млн. злотых), ганарары (16 млн. злотых), па 6 млн. злотых тамажныя пошліны і службовыя падарожжы. Іншыя адміністрацыйныя кошты невялікія. З увагі на цяжкае фінансавае становішча ва ўсім трэба шукаць ашчаднасцей. Выдзелены таксама кошты ўтрымання мікра-аўтобуса. Склалі яны 34,2 млн. злотых, у тым ліку звыш 13 млн. злотых выдаткавана на бензін і 12 млн. злотых — зарплата шафёра, а астатнія, гэта страхоўка, дарожны падатак і іншае. На транспартных паслугах выпрацавана 18 млн. злотых звароту агульных коштаў, але астатнія 16 млн. злотых адны залічвалі да страт, другія — да абумоўленых патрэб у перыяд пабудовы музея. Закрапутую справу вырашана наставіць на разгляд праўленню камітэта, а ў будучыні — вырашаць яе больш калегіяльна.

Звернута была таксама ўвага на неабходнасць больш энергічнага парадкавання атрымліванай маёмасці і неабходнасць дапаўнення новымі экспанатамі існуючай экспазіцыі і запасных фондаў.

Старшыні камітэта Кастусю Майсені і ўсім асобам, непасрэдна заангажаваным у пабудову музея, выказана падзяка за вялікі ўклад працы.

**Старшыня рэвізійнай камісіі**

**У.ЮЗВЮК**



*На будоўлі музея.* **Фота У. Крука.**

*Спакойнага святочнага адпачынку чытачам „Нівы"*

*жадае рэдакцыя*



## ПРА БЕЛАРУСКУЮ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

Васемнаццатага сакавіка г.г. у Польска-беларускім клубе ў Варшаве адбылося спатканне з д-р Багумілай Бэрдыхоўскай — дырэктарам Аддзела нацыянальных меншасцяў у Міністэрстве культуры і мастацтва. Тэмай спаткання была сітуацыя і праблемы беларускай меншасці ў Польшчы.

Дырэктар Б. Бэрдыхоўская, дасканала сарыентаваная ў праблеме, перақазала свае інфармацыі, не ўхіляючыся ад выкладаў з дзе-якіх з'яў, ці кароткага аналізу прычын.

На ўступе паінфармавала, што ў 1990 г. Міністэрству культуры і мастацтва былі перададзены справы нацыянальных меншасцяў Міністэрствам унутраных спраў, якое, аднак, затрымала дакументацыю, спыняе доступ да яе і не згаджаецца на перадачу архіва.

Камісія нацыянальных і этнічных меншасцяў у Сейме пакуль што безвынікова вядзе гутаркі аб тым, каму перадаць гэтыя справы і які ім надаць выканаўчы ранг.

Паводле Б. Бэрдыхоўскай, лік беларусаў у Польшчы ацэньваецца на 200.000, што пацвердзілі самаўрадавыя выбары ў 1989 г., а менавіта колькасць аддадзеных галасоў на Беларускі выбарчы камітэт у гмінах паўночна-ўсходняй Беласточчыны (ад 50% да 90%). Гэта дало магчымасць стварыць Саюз усходніх гмін, які так і не пачаў дзейнічаць, між іншым, і з прычыны супраціву польскай грамадскасці. Не ўведзена таксама навучанне беларускай мовы ў школах (апрача 44 пачатковых школ і 2 ліцэяў), а колькасць вучняў беларускай мовы зменшылася з 3.033 у 1990/91 да 2878 у 1992/93 навучальных гадах, у адрозненне ад украінскай меншасці, для якой адчыняюцца ўкраінскія школы, а колькасць вучняў украінскай мовы павялічылася на адну тысячу. Прычыны гэтай з'явы дакладчыца спасцерагае ў недахопе заактуалізаваных праўных норм, пасіўнасці беларускіх грамадскіх арганізацый, у амаль поўнай адсутнасці адпаведных падручнікаў і іншых навуковых дапаможнікаў, у ненамысным націску польскага, асабліва гарадскога, грамадства, ды дэпапуляцыі вёсак. Паінфармавала аб доследах праблемы, аб разважаннях пытання дэкларацыі меншасці, а нават увядзення абавязку навучання беларускай мовы ў школах у беларускім асяроддзі, чаго, аднак, не прадбачаць міжнародныя нормы.

У галіне беларускамоўных выданняў, пералічыўшы ўсе загалоўкі, звярнула ўвагу, што ўсе яны нізкатыражныя. Ацаніла пазітыўна прысутнасць беларускай і ўкраінскай моваў у канфесійных выдавецтвах, што падняло іх значэнне. Згоду архіепіскапа Савы на выданне часопіса Брацтва праваслаўнай моладзі на беларускай мове назвала першым пазітыўным жэстам у бок беларусаў.

Звярнула яна ўвагу на асаблівую актыўнасць у апошнім часе літаратурнага аб'яднання „Белавежа", іх выдавецкую і папулярызатарскую дзейнасць, чаго не наглядаецца ў такой ступені і на такім узроўні ні ў адной іншай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Незалежна ад радыёперадач на беларускай мове Беластоцкага і Варшаўскага радыё вядуцца перагаворы з Радыёкамітэтам на тэму праграмы нацыянальных меншасцяў у тэлебачанні.

З ацэнкі плюралістычных дачыненняў як у польскім грамадстве, так і ў асяроддзі беларускай меншасці вынікаюць, як заўважыла дакладчыца, не толькі пазітыўныя праявы. Беластоцкая „Салідарнасць" адкінула ў 1989 г. прапанову змясціць на яе выбарчых спісках беларускіх кандыдатаў, што прычынілася да паз6аўлення магчымасці прадстаўніцтва беларусаў у праваддаўчых органах дзяржавы. Гэта, з аднаго боку, зрабіла больш складанымі суадносіны між беларускім і польскім асяроддзямі Беласточчыны, з другога — колькасць аддадзеных галасоў на кандыдата беларускай меншасці Сакрата Яновіча прычынілася да стварэння на базе выбарчага камітэта — Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

Крытычнай праявай назвала Б. Бэрдыхоўская сваркі між беларускімі групоўкамі, асабліва між БДА і БГКТ, унушэнне дзеячамі БДА, што неабходна назбавіць БГКТ як акасцянелую арганізацыю дзяржаўных датацыяў, таксама і непаразуменні між БДА і праваслаўнымі асяроддзямі, прычыненыя уніпнымі арыентацыямі ў кругах БДА. Усё гэта не спрыяла поспеху Беларускага выбарчага камітэта ў 1991 г. У такой сітуацыі мандат у Сейм атрымаў кандыдат канфесійнага круга Яўген Чыквін, што прадстаўляе як інтарэсы праваслаўных, так і беларускай меншасці.

Новы лідэр БДА — Алег Латышонак, на думку Б. Бэрдыхоўскай, прычыніцца да паяднання БДА з праваслаўнымі асяроддзямі, але цяжэй будзе гэтага дабіцца ў суадносінах між БДА і БГКТ.

Аналізуючы праблему культурнага жыцця беларускай меншасці,

( Працяг на стар. 7 )

 

## НА мяжы

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка XII**

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Гісторыя дае духавенству Беларусі вялікі шанц: пашырыць свае ўплывы і стаць актыўным чыннікам нацыянальнага беларускага адраджэння. Думаю, што беларуская дэмакратычная дзяржава, астаючыся структурай свецкай, створыць усім рэлігіям умовы аднолькавых магчымасцей для дзейнасці. Не будзе ў Беларусі рэлігій горшых і лепшых, не будзе дзяржаўных і антыдзяржаўных. Усе павінны выходзіць з інтарэсаў беларускай духоўнасці, беларускай мовы і беларускага гонару.

Веру, што дзяржава астанецца структурай свецкай, а рэлігія або атэізм будуць належаць да прыватнай сферы жыцця грамадзян, сферы, у якую ніхто не мае права ўмешвацца.

У Польшчы ў апошнія гады сацыялізму будавалася каля двух з паловай тысяч сакральных аб'ектаў. І гэта была большая колькасць, чым колькасць сакральных аб'ектаў, будаваных ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы, разам узятых. Гэта сведчыць аб тым, што сакральнае будаўніцтва мела і мае для палякаў прыярытэтнае значэнне. Несумненна, перад рэлігійнымі грамадскасцямі ў Беларусі ўзнікне праблема будавання святыняў. Тым болей, што па працягу ўсяго перыяду савецкай улады цэрквы, касцёлы, мячэці і бажніцы праграмна знішчаліся або замяняліся ў аб'екты разрыўковага або гаспадарчага характару. Многія храмы былі знішчаны ў перыяд вайны і ніхто пасля не дазволіў іх адбудаваць. У шматлікіх гарадах і мястэчках гістарычныя цэрквы былі ўзарваны дынамітам або расцягнуты пры дапамозе ланцугоў, канатаў, вяровак трактарамі і бульдозерамі. Зразумела, што ўсе гэтыя ўчынкі выстаўляць іх аўтарам пасведчанне дзікуноў і варвараў. Не думаю, каб у Беларусі сакральнае будаўніцтва набрала такіх тэмпаў і размераў, як у Польшчы. На маю думку, па гэта не згодзіцца і сам народ. Аднак, не можа прадаўжацца такая сітуацыя, што для таго, каб ахрысціць дзіця ці павянчацца, трэба было ехаць трыццаць ці нават пяцьдзесят кіламетраў. Думаю, што Праваслаўная Царква на Беларусі ў галіне сакральнага будаўніцтва можа карыстацца дасведчаннем беларускай эміграцыі, а таксама праваслаўных улад у Польшчы, якія зрабілі вельмі многае ў галіне рэстаўрацыі старых цэркваў і пабудовы новых. Я думаю, што ўцешыць вока кожнага беларуса, у тым ліку такога, як я, вольнадумца, карціна ўтрыманай у добрым стане царквы, якая красуецца на ўзгорку, акружаная вееpамі бяроз, клёнаў або ліп. Гэта ж вобраз нашага дзяцінства, нашай маладосці, якім не можа не захапляцца і наша старасць. А ці ж не заб'ецца наша сэрца жывей, калі ў нядзельную раніцу даляціць да нас адгалоссе царкоўных званоў?

На Беларусі пакуль што з сакральным будаўніцтвам справа выглядае дрэнна. Дарэчы, наогул стан касцёлаў там намнога лепшы, чым стан цэркваў. Аднак сёе-тое добрае робіцца і з цэрквамі. Здзівіла мяне нядаўнаповенькая прыгожая царкаўка, узведзеная ў Менску паблізу гасцініцы „Беларусь". Аднак гэта толькі першыя ластаўкі. Думаю, што беларускае духавенства павінна перад усім пераняць тыя ўсе святыні, якія пераўтвораны ў склады, клубы, магазіны, архівы або не з'яўляюцца нічым і страшаць прахожых выбранымі вокнамі і дзвярыма ды сарванымі крыжамі. Зразумела, што бедная беларуская дзяржава і небагатае беларускае грамадства не ў стане кінуць вялікія сродкі на сакральную рэканструкцыю і новае сакральнае будаўніцтва. Аднак, можна зрабіць намнога болей, чым рабілася дагэтуль.

Пакуль што людзі на Беларусі ўсё яшчэ знаходзяцца пад уплывам тых часоў, калі кожны кантакт з царквою ці з духоўнымі трактаваўся ўладамі як свайго роду злачынства, якое дыскваліфікуе савецкага чалавека. Не ўсе людзі ўсведамляюць, што тыя гады ўжо скончыліся і болей не вернуцца і што толькі ад кожнага з нас залежыць — ці будзем верыць і практыкаваць, ці будзем верыць, але не практыкаваць, ці ўвогуле не будзем ні верыць, ні практыкаваць.

Палітыка Рэспублікі Беларусь павінна зводзіцца да сцвярджэння: не можа быць свабодным грамадства, у якім няма свабоды веры. Дык няхай гэты прынцып станецца адным з канстытуцыйных прынцыпаў, якія будуць датычыць усіх вольных грамадзян незалежнай Беларусі!

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

**************************************************************

## З мінулага тыдня

Паводле вестак з добра паінфармаваных кругоў у Менску Беларусь мае намер выступіць з прапановай **падзелу гандлёвага, рыбацкага і пасажырскага флоту** былога СССР і перадачы Рэспубліцы Беларусь належнай колькасці суднаў. Беларусь, якая не мае доступу да мора, падпісала пагадненне з Польшчай у справе карыстання з польскіх партоў на Балтыйскім моры. У час нядаўняга візіту шэфа беларускай дыпламатыі **Пятра Краўчанкі** ў Рызе і Таліне дэлегацыя РБ ставіла на разгляд справу магчымасці зрабіць дастунымі для будучага беларускага флоту парты Латвіі і Эстоніі.

**Улады Брэста** вырашылі закрыць, пачынаючы з 10 красавіка, кантрольна-прапускны пункт для аўтамашын. Да 20 красавіка на польска-беларускім пагранічным пункце будзе поўнасцю спынены рух аўтамашын, у тым ліку таксама і для польскіх грамадзян, якія вяртаюцца дадому з краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Карыстацца брэсцкім КПП могуць толькі дыпламаты і — у абмежаванай колькасці — уладальнікі службовых пашпартоў. Прычынай закрыцця граніцы з'яўляецца магчымасць выбуху эпідэміі, паколькі на беларускім баку граніцы ў шматкіламетровых чэргах пасажыры легкавых машын і аўтобусаў качуюць па дзесяць дзён без санітарных прыстасаванняў.

**„Racja"** — польскамоўны інфарматар Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання нядаўна выйшаў з друку. Ва ўступе выдаўцы пішуць, што найбольш увагі інфарматар будзе адводзіць беларускім інтарэсам. На старонках гэтага выдання чытачы змогуць знайсці аргументацыю для нашых элементарных патрэб: палітычных, грамадскіх, культурных і асветных.

**XX сесія Гарадской рады ў Гайнаўцы** прысвечана была ўхваленню бюджэту горада на 1992 год. Член Рады **Марыя Цыборан** прапанавала прызначыць 200 мільёнаў злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. У выніку галасавання радныя прапанову адкінулі.

Невядомыя злачынцы ўкралі ў аўторак, 7 красавіка, з **праваслаўнага могільніка** на вуліцы Вольскай у Варшаве каля ста латунных крыжоў і некалькі дзесяткаў такіх жа літар.

**Ствараецца Саюз нямецкай моладзі Рэчыпаспалітай Польскай.** Рэгістрацыйныя дакументы будуць неўзабаве перададзены ў Ваяводскі суд у Вроцлаве. Новая арганізацыя будзе дзейнічаць на базе маладзёжных гурткоў, якія існуюць пры чатырнаццаці нямецкіх грамадска-культурных таварыствах. Арганізацыйны камітэт мяркуе, што саюз налічваць будзе 20 тысяч членаў.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НА ТОЕ І СТРАЙКАМ У МЕНСКУ, КАБ УРАД НЕ ДРАМАЎ

Днямі ў сталіцы Беларусі, на пляцы Незалежнасці, зноў адбыўся мітынг пратэсту супраць эканамічнай палітыкі ўрада. На гэты раз на галоўную плошчу рэспублікі вывеў людзей Менскі страйкавы камітэт.

У мітынгу ўзялі ўдзел каля пяці тысячаў чалавек. Там самым страйкам нагадніў рэспубліканскім уладам, што не страціў свайго ўплыву на менскі пралетарыят і па-ранейшаму з'яўляецца сур'ёзнай палітычнай сілай.

### У ЦЕСНАЦЕ ДЫ ПРЫ ПАСАДЗЕ

На нядаўнай сустрэчы з кіраўнікамі мясцовых Саветаў Старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч пацвердзіў, што вымушаны пакуль жыць з жонкай і сынам усё ў той жа двухпакаёўцы, бо дом, дзе ён павінен атрымаць новыя „апартаменты", будуецца вельмі марудна.

Шкада Станіслава Станіслававіча — і ён стаў ахвярай спадчыннай хваробы сацыялізму — даўгабуду.

### ДЗВЕ ЕПАРХІІ

Сінод Беларускага экзархата вырашыў адкрыць на тэрыторыі Гродзенскай вобласці дзве праваслаўныя епархіі — Гродзенскую і Навагрудскую.

Зрэшты, што датычыць Гродзенскай епархіі, то яна існавала на Беларусі даўно і дзесьці ў шасцідзесятых гадах была ўладамі забаронена.

### ЖЫВЕ МІЖ НАС ГЕНІЙ

Беларускі вучоны-фізік Мікалай Барысевіч абраны правадзейным членам Еўрапейскай Акадэміі навук, мастацтваў і славеснасці.

Трэба адзначыць, што яго імя трапіла ў такія прэстыжныя міжнародныя выданні, як „Хто ёсць хто ў свеце", „Міжнародны даведнік выдатных дзеячоў", „Выдатныя людзі". Біяграфічныя дадзеныя Мікалая Барысевіча хутка можна будзе знайсці ў „Міжнароднай кнізе гонару" і ў выданні „Пяць тысяч біяграфій з усяго свету".

### ЛІШНІЯ ЛЮДЗІ

Як сведчыць Дзяржаўны камітэт рэспублікі па статыстыцы і аналізу сёлета ў Беларусі будзе скарочана амаль 79 тысяч працоўных месцаў.

### МІНЧАНЕ БЕЗ РОДУ І ПЛЕМЕНІ

Згодна з вынікамі сацыялагічных апытанняў толькі 24 працэнты менчукоў ведаюць, што такое Беларуская Народная Рэспубліка і калі яна ўтварылася. Праўда, яшчэ менш жыхароў сталіцы Беларусі правільна назвалі дату ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — усяго толькі 22 працэнты апытаных.

### ЛАДДЗЯ НАДЗЕІ

Старажытны Полацк зноў набыў свой гістарычны герб з выявай трохветразёвага струга. У свой час гэтая „ладдзя" была сімвалам гандлёвай сувязі слаўнага горада на Дзвіне з многімі еўрапейскімі краінамі. Будзем спадзявацца, што разам з адраджэннем ранейшага герба Полацка ўзновіцца і былая магутнасць і веліч колішняй сталіцы крывічоў.

### ЕДУЦЬ ДЗЯДЗЬКІ НА КІРМАШ

У сталіцы Беларусі пачаўся традыцыйны Менскі кірмаш „Вясна-92". На кірмаш з'ехаліся гандляры з краін былога СССР, а таксама Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Швейцарыі, Польшчы, Індыі і Кітая. Увогуле, на кірмашы прапануюць разнастайныя тавары прыкладна 1000 фірмаў і прадпрыемстваў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

✱ Пішу пра тое, у што веру... гаворыць Надзея Дудзік.

✱ З царкоўнага жыцця.

✱ Сустрэчы з Вольгай Іпатавай.

✱ Настаўніцкія канферэнцыі ў Нарве і Бельску.

✱ Кніжны кірмаш.

**На спартыўнай ніве**

### НАЙЛЕПШЫЯ

У Бельску-Падляшскім адбыўся гмінны чэмпіянат у настольным тэнісе. Сярод юнцоў найлепшыя месцы занялі: **Міраслаў Расцкі** з вёскі Аўгустова (I месца), **Войцех Якімюк** з Кнарыдаў (II месца) і **Юрка Пячынскі** з Пілікаў. У спаборніцтве юнакоў пераможцамі сталі **Яцэк Крэтовіч** з вёскі Аўгустова, **Марэк Наумчук** з Катлоў і **Павел Грыгарук** з Відава.

Сярод старэйшай моладзі першае, другое і трэцяе месцы занялі **Міраслаў Прафірук** і **Аляксандр Парафенюк** з Кнарыдаў і **Марыюш Верамеюк** з Аўгустова. Віншуем!

**ЯСЕНЬ**



 

## Літаратурны семінар „Белавежы"

# У МАГІЧНЫМ СВЕЦЕ „КРУГАВОЙ ЧАРЫ"

Семінары Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" сталіся добрай традыцыяй таго руху, які паявіўся амаль трыццаць чатыры гады таму назад. Спачатку „белавежцы" сустракаліся два разы ў год. І вось ад 1990 гэтыя сустрэчы сталіся сістэматычнымі, штомесячнымі (з выняткам летніх месяцаў). Сур'ёзных прычын для творчых размоў і дыскусіі ёсць штораз больш, хоць бы і з той аказіі, што ў апошніх двух гадах значна ажывілася выдавецкая дзейнасць. У серыі „Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ўжо вышлі з друку значныя кнігі. Маюцца вельмі канкрэтныя планы і на будучыню, хоць фінансавую падмогу на гэта Аб'яднанне атрымала з Міністэрства культуры зусім мізэрную. Можа таму, што джэнтльмены пра грошы не гавораць?!. Але элегантныя ў сваіх паводзінах, яны — „белавежцы" — глыбока цэняць мастацтва. І гэта так выразна праявілася на чарговым семінары, 15 сакавіка, прысвечанага новай паэтычнай кнізе ЯНА ЧЫКВІНА „Кругавая чара". Яна з'явілася ў трыццаць пятую гадавіну творчасці яе аўтара, які — прыгадаем — дэбютаваў на старонках „Нівы" ў 1957 годзе вершам „Кошка Броўка".

Зараз Ян Чыквін — паэт вядомы і прызнаны. Яго творчасць займае высокае месца як у беларускай літаратуры, так і ў польскай, якую ўзбагацілі два зборнікі перакладаў ягонай паэзіі „Na progu świata" (1983) і „Splot słoneczny" (1988). Выпусцілі гэтыя кнігі рэнамаваныя польскія выдавецтвы, а творы пералажылі на польскую мову такія знакамітыя перакладчыкі як Э. Фэліксяк, В. Варашыльскі, Ф. Няўважны, Е. Літвінюк, М. Юркоўскі, Я. Леанчук.

„Кругавая чара" Яна Чыквіна ва ўсіх адносінах гэта паэтычная кніга, што і падкрэслівалася ў многіх выступленнях і ў рознай форме многімі саўдзельнікамі гэтага семінара. А прысутнічалі і калегі-„белавежцы" — Н. Артымовіч, С. Яновіч, Г. Валкавыцкі, В. Швед, В. Стахвюк; і журналісты „Нівы" — А. Чачуга, Міра Лукша, В. Луба, М. Ваўранюк, М. Хмялеўскі, а таксама прадстаўнікі Польскага радыё ды студэнты.

З уступным словам выступіў вядомы празаік, рэдактар аднаго з першых зборнікаў паэзіі Яна Чыквіна, Сакрат Яновіч (яго словы „БЕЛЫ ГОЛУБ ПЛАЧУ" друкуем ніжэй).

Ужо ў парадку дыскусіі С. Яновіч звярнуў увагу яшчэ і на эдытарскую стараннасць Чыквінавага зборніка, што кідаецца перш на перш у вочы, на прыгожае графічнае афармленне (Здзіслаў Цыпэльт), гарманізуючае са зместам кнігі, з яе мудрымі і глыбокімі творамі. Выказаў ён таксама думку, што для інтэрпрэтацыі паэтычных тэкстаў „Кругавой чары" трэба карыстацца Чыквінавымі словамі-ключамі, такімі — паводле яго — як: ноч, цемната, вечар, цень, сон, час, поле. Прыцягваюць увагу рэдкія ў літаратуры вершы, прысвечаныя памёршаму бацьку паэта. У іх згушчаецца ў паэзіі Чыквіна тэма балючасці прамінання, экзістэнцыяльнага смутку, так выразна характарыстычнага ўвогуле для дагэтуляшняй творчасці аўтара „Святой студні". С. Яновіч прабаваў таксама выясніць загаловак кнігі — „Кругавая чара". „Алкаголь горкі, — сказаў, — але ён мяняе псіхіку, як гэтыя вершы, насычаныя сумам, горычу існавання, задумаю над жыццём і яго сэнсам".

Г. Валкавыцкі падкрэсліў у новай кнізе Яна Чыквіна выразнейшую чымсьці раней нацыянальную самаакрэсленасць аўтара, прысутнасць у творах беларускай праблематыкі. Несумненна яны ўзбагачаюць універсальную ў тэматыцы творчасць паэта.

У дыскусіі дамінавала ў большасці гутарка якраз пра шматзначнасць твораў „Кругавой чары", якія даюць багатую магчымасць самых розных інтэрпрэтацый (М. Ваўранюк). Адну з іх прадставіла ніжэй падпісаная, звяртаючы ўвагу на магічны, зачараваны свет „Кругавой чары". Лірычны герой гэтых твораў жыве ў няспынным неспакоі. Шукае гармоніі, харaства, дабра. Аднак ідэал гэты не спаўняецца і астаецца толькі імкненнем, паэтычнай марай. У жыццёвай прасторы героя прысутнічае смерць, лёс ды іншыя пагрозлівыя таямніцы свету. Ягоная псіхіка шукае паратунку і апоры ў магіі, якую — як пісаў вядомы антраполаг Браніслаў Маліноўскі (Szkice z teorii kultury") — сустракаем усюды там, дзе дзейнічае лёс і выпадак, дзе маецца ваганне паміж надзеяй і боязю. Бо магія паяўляецца і дзейнічае ў сітуацыі эмацыянальнага напружання, у пераломных момантах жыцця; пры дапамозе звышнатуральных сіл дазваляе выкараскацца з тых абставін, з якіх няма выйсця шляхам эмпірычным. Магія дае моц панавання над усімі сіламі, дае магчымасць вызваліцца ад іх злога ўздзеяння. А сутнасцю магіі з'яўляецца закляцце словам, якому прыпісваецца моц цудатварэння. Іменна праз слова спаўняецца міф выратавання героя „Кругавой чары".

Вядома, магіі ў лірыцы Яна Чыквіна нельга ўспрымаць даслоўна, толькі як своеасаблівую зметафарызаваную аналогію да праўдзівай іпастасі гэтай з'явы. Паэтыка заклінання часам ахоплівае многія цэлыя творы „Кругавой чары". Прыгожы верш „Малітва" не з'яўляецца толькі малітоўным зваротам ці літанійным апострафам. Гэты твор трэба чытаць як арыгінальную форму заклінання. Выкарыстанне рэлігійнай арнаментыкі, тэхнікі вылічання, выбар матываў прыдаюць гэтаму тэксту магічную сілу. Магічнае слова мае ўласцівасць перамяняць рэчаіснасць, дзейнічаць на любую адлегласць і адвольна выбранае месца. Знаходзіць гэта сваё пацвярджэнне ў прадказанні (верш „Не пішы мне"), у гэтым творы паяўляецца цыганка з дарам яснабачання. Прадбачваючы, аднак, замест выясніць таямніцу і загадку будучыні, яна выказвае словы, якія тую таемнасць толькі памнажаюць. Але гэта і натуральна, таму што, як і ўсе прадказанні, яно агульнае, не яснае, хоць пагрозлівае, з перспектывай рэальнага яго спаўнення. Урываючыся ў круг таямніцы свету, лірычны герой уваходзіць у лабірынт, дзе дарэмна шукае нітку Арыядны. Дарога пазнання прымае кштальт круга, якога лінія не прыбліжае, але і не аддаляе ад той жа загадкі. Гэта зачараваны круг, пастка, з якой няма выйсця. Матыў гэты спалучаецца з загаловачнай чарай. Яна ідзе па крузе, з рук у рукі, сімвалізуючы Лёс, пазбегнуць якога немагчыма.

Найлепшай парою для магічных практык ёсць час зараз жа пасля заходу сонца, поўнач альбо апошнія хвіліны перад світаннем. Фонам лірычных перажыванняў героя з'яўляецца найчасцей вечар, поўнач або світанне, скрыжаванне ці раздарожжа дня і ночы. Перад світаннем тройчы спявае певень. У магічным свеце „Кругавой чары" паяўляюцца „пустазвоны" і „званы", якія прадракаюць благі канец або перасцярагаюць перад надыходам апошняй гадзіны. Паэт увёў у зборнік шмат такіх „магічных слоў" з разгалінаванымі асацыяцыямі. Уваходзяць яны ў яго лірычныя творы з усёй сваёй традыцыяй, семантычнымі кантэкстамі і выконваюць функцыю, якую і раней выконвалі ў культуры.

. Мова „Кругавой чары" раз за разам займала ўвагу прысутных на семінары ўдзельнікаў. Падкрэслівалася Чыквінавая незвычайная ў адносінах да мовы эстэтычнасць, артыстычная шліфаванасць (А. Чачуга, С. Яновіч). Выказваліся аб яго неалагізмах (В. Швед).

Затым выказаўся і сам аўтар новай кнігі, які да гэтага часу толькі прыслухоўваўся размове. Не дзеля якога-колечы апраўдання, але глыбейшага выяснення ды самаўразумення, Ян Чыквін аднёсся да шэрагу праблем, якія ўзніклі падчас дыскусіі: суадносіны нацыянальнага і агульначалавечага элементаў у мастацтве, праблемы сальерызму, мовы твораў культурнага пагранічча ды іншых.

У час семінара можна было купіць „Кругавую чару" ды атрымаць аўтарскі аўтограф. У кулуарах пасля сустрэчы доўга яшчэ дзяліліся заўвагамі пра кнігу, літаратурнае асяроддзе, планамі на будучыню.

**ТЭРЭСА ЗАНЕУСКАЯ**

---

Некалькі найпершых заўваг.

# БЕЛЫ ГОЛУБ ПЛАЧУ

У вершы *„Крык начны савы"*, якім пачынаецца **„Кругавая чара"** — нізка новай паэзіі Яна Чыквіна — бачу такія радкі:

*Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?*
*Чаму нікому нельга лёсу перайначыць?*
*Не адсумуе смутак нашых усіх зямных трывог —*
*З вачэй злятае белы голуб плачу.*

І як гэта бывае ў творчасці кожнага паэта, начэпліва застаецца ў памяці чытача нейкая адна думка або вобраз, быццам лермантаўская фраза: „Выхожу один я на дорогу..." На выгляд нават даволі банальная, у нічым незвычайная, а ўсё-такі неадчэпная якойсьці таемнай мацатою. Бы фундамент, на якім будуем уласныя роздумы — пра сябе, іншых, свет.

Пра Чыквіна я думаю так доўга, як доўга і сам пішу. Прамінулі эпохі, назмяняліся ў людзей пагляды ды арыентацыяў, але Чыквін — не журналіст і не абы-які пісака дзеля хлеба і ордэнаў... Ён і не вершапісец, які тым адрозніваецца ад публіцыста, што толькі рыфмуе патрэбныя камусьці тэксты, аздабляючы іх больш-менш удалымі метафарамі.

У паэта Яна Чыквіна ёсць тое, што Чэхаў называў **жывым Богам у чалавеку** (без якога індывід нагадвае сабою жывёліну з інстынктамі — голаду, страху, сексу...). Чыквіна якраз дэфініюе для мяне той апошні радок: *„З вачэй злятае белы голуб плачу"*. Адгукаецца рэхам у чытанні **„Кругавое чары"**. А каб толькі яе, зрэшты. Іначай успрымаю цяпер і папярэднія яго кніжыцы — **„Святую студню"**, прыкладам кажучы, ці **„Неспакой"**. Чаму так? Надта ж чыквінскае гэта выказванне, здалёку апазнавальнае, як і прыгожыя неалагізмы — *„нахлынь цішыні"*.

Харaство заўсёды сумнае, падказвае ён (мне). І я ведаю, чаму: яно ж нявечнае ў адзінкавай праяве. Праўдападобна, таму і наглядаецца ў Чыквіна комплекс лета. На фоне вечнасці. Кветка і жанчына, лайдак і дабрадзей, цывілізацыя і варварства, — ва ўсім прысутная універсальнасць: загадка існавання, самота, ці той жа нязменны лёс (накшталт боскага прадвызначэння). Адданы ўсім хлябец гэткі будзе!

Ён — усё роўна што пабойваецца захлынуцца буйнасцю жыцця, цуднасцю прыроды. Трэба ж — давядзецца! — некалі пакінуць усё, знікнуць у нябыт... Як жа інакш растлумачыць ягоны, так сказаць, паэтычны рацыяналізм, тую *„нешчаслівую шчаслівасць"*? Поле ў **„Кругавой чары"** не па-язычніцку квяцістае і сонцаяснае, не васільковае і з попахамі хлеба, а па-іконнаму залацістае і аблямаванае фіялетам. Хоць і прарываецца ў Чыквіне паганскі лірызм, нееўрапейская ці нехрысціянская адухаўлёнасць, дазваляючы сабе час ад часу на стыхію натхнення. І тады ў яго — плот крычыць, дзяцінства адыходзіць за лес, а сны сніць такія, што іх ні вухам злавіць, ні языком сказаць, ні рукамі звязаць... А гэта ж, забытая ў нас, антычнасць. Вяртаецца Ян ў сваю Ітаку, што паміж Орляю і Дубічамі-Царкоўнымі. І натыкаецца на здзіўленне, дастойнае класічнасці: *„Меншыцца айчыны далягляд"*.

Сталая ў яго карэспандэнцыя з сусветнай культурай. Рэфлексія над гістарычным часам. Разам з тым ведае, што паэтаў, якія былі б паэтамі наогул, няма. Ёсць толькі паэты бацькаўшчыны, айчыны.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

P.S. — Звяртае ўвагу элегантнае выданне **„Кругавой чары"**, проста шыкоўнае! Значыць: калі хочам, дык і можам, і не трэба дзеля гэтага слыннай фірмы.

# ПОГЛЯДЫ

## ЯК ЖЫЦЬ?

Пры капіталізме трэба спадзявацца толькі на сябе. Можна яшчэ і на сям'ю, але і то не заўсёды. На дзяржаву і суседзяў разлічваць нельга. Мажа, толькі за выключэннем суседзяў з вёскі. Там увесь час быў капіталізм і там кожны ў першую чаргу разлічваў на сябе, а потым на суседзяў. Суседу з блока дапамагчы цяжка, калі і самому не хапае, ну, мо не на хлеб, але на масла, мяса, школу, газеты, тэлебачанне.

Калі чалавек прыйдзе да вываду, што можа разлічваць толькі на сябе, то гэта ўжо само па сабе з'яўляецца вялікім крокам у будучыню рыначнай гаспадаркі. Галоўнае — гэта свядомасць, што можна рабіць тое, што ўмееш і патрапіш. Капіталізм дазваляе рабіць усё, аднак магчымасці працы трэба самому шукаць, ніхто іх пад нос не падсуне. Мы быццам бы ведаем, што ўмеем і можам рабіць, мы ж людзі разумныя. Трэба толькі гэтым розумам разважліва карыстацца.

Калісь, успамінаюць старыя людзі, пасля першай сусветнай вайны, у час вяртання з бежанства людзі на сваіх сядзібах не знаходзілі амаль нічога. Елі лебяду, жылі ў зямлянках, а паглядзіце, як за некалькі пакаленняў людзі разжыліся. Цяпер жа бяда, бо няма каму прадаць збожжа, мяса, бульбу, бо не хапае грошай на паліва для машын.

Калісьці, пасля першай сусветнай вайны, людзі думалі, як пабудаваць хату, каб не жыць у зямлянцы. Цяпер трэба думаць, як прадаць вырошчанае, як жыць, каб пражыць, сабе і сям'і. Хтосьці сказаў, што яшчэ так не было, каб якасьці не было. І гэтай аптымістычнай заўвагай канчаю некалькі асабістых рэфлексій пра сучаснасць.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ,**
**Сопат**

## ДЗЕЛЯ СУПРАЦОУНІЦТВА

Супрацоўніцтва між Польшчай і Беларуссю становіцца штораз больш цесным. Выклікае яно вялікае зацікаўленне беларускай меншасці ў Польшчы і надзею на гаспадарчае ажыўленне паўднёва-ўсходніх гмінаў Беластоцкага ваяводства. Пакуль што выразных вынікаў ажыццяўлення гаспадарчых міждзяржаўных дамоваў у нашым асяроддзі не відаць, але непакоіць тое, што інфраструктура для гаспадарчага абмену ствараецца па-за нашай тэрыторыяй. Таму стаўлю на публічны разгляд вось такія прапановы:

1. Стварыць кантрольна-прапускны

( Працяг на стар. 5 )

# Фота-вітрына



*Будзе экспанат у музей.*
**Фота У. Завадскага.**

# САМАЎРАДАВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПОЛЬШЧА-БЕЛАРУСЬ

Фонд імя Стэфана Баторыя ўзнік у маі 1988 года. Яго заснавальнікам з'яўляецца Джордж Сорас, амерыканскі фінансіст і філантроп. Мэта гэтага фонду — усебаковае развіццё польскага грамадства, асабліва грамадскай, інфармацыйнай, культурнай, навуковай і асветнай дзейнасці дзеля развіцця дэмакратыі і рыначнай эканомікі ў Польшчы, а таксама набліжэнне да сябе народаў і дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Такія ж фонды Джорджа Сораса існуюць ужо ў Браціславе, Будапешце, Бухарэсце, Кіеве, Маскве, Празе, Рызе, Сафіі, Таліне і Вільні.

Свае статутныя мэты фонд імя С. Баторыя здзяйсняе, між іншым, арганізуючы дыскусійныя сустрэчы прадстаўнікоў краін і грамадстваў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Такога тыпу сустрэчай была Польска-беларуская самаўрадавая канферэнцыя, якая праходзіла ў Беластоку ў днях 2-4 красавіка гэтага года. Суарганізатарамі, побач Фонду С. Баторыя, былі: Самаўрадавы соймік Беластоцкага ваяводства і Фонд дзеля развіцця добрасуседскіх адносін Польшчы на ўсходзе „Плюс" з Беластока.

Мэты канферэнцыі былі такія:
— абмен дасведчаннем у галіне функцыянавання органаў тэрытарыяльнага самакіравання ў Польшчы і на Беларусі;
— ацэнка польска-беларускага прыгранічнага супрацоўніцтва і магчымасці яго інтэнсіфікацыі;
— шанцы развіцця гаспадарчага абмену між Польшчай і Беларуссю — новыя формы супрацоўніцтва.

Запрошанымі на канферэнцыю былі прадстаўнікі самаўрадаў памежных рэгіёнаў Польшчы і Беларусі, абодвух урадаў і парламентаў ды прадстаўнікі гаспадарчых асяроддзяў і арганізацый.

З польскага боку зацікаўленне канферэнцыяй выявілі ўлады горада Беластока, Беластоцкага і Белападляшскага ваяводстваў. Але запрошаныя старшыні абласных выканаўчых камітэтаў Гродна і Брэста ў Беластоку не з'явіліся. Можа, непрыхільнае стаўленне беларускіх улад да канферэнцыі можна тлумачыць тым, што большасць прысутных на ёй з беларускага боку — гэта прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі з Беларускім народным фронтам на чале.

Не ўдаўся візіт польскай самаўрадавай дэлегацыі ў Ваўкавыск, бо... не пусцілі яе беларускія мытнікі.

Цяжка сказаць, ці Самаўрадавая канферэнцыя Польшча — Беларусь дасягнула пастаўленых мэты. Мабыць, такія сустрэчы будуць працэнтаваць у будучыні, але пакуль што, здаецца, ніякага ўплыву на рэчаіснасць не маюць па абодвух баках мяжы. Мяжы, патрэбу адкрыцця якой усе бачаць (удзельнікі гэтай канферэнцыі таксама), але чамусьці яна не толькі не адкрываецца, а робіцца ўсё шчыльнейшай. Замест адчыняць новыя пераходы, замыкаюцца старыя (прыклад — Брэст).

Дыскусіі дыскусіямі, а жыццё — жыццём.

**ак**

# МАКСІМ ТАНК
## АБО
## РЭЧАІСНАСЦЬ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ У 30-ТЫЯ ГАДЫ

**Яўген Вапа два гады таму закончыў гістарычны факультэт Варшаўскага універсітэта. Дыпломную працу пісаў пра лідэра беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца. Прапануем нашым чытачам ягоныя разважанні пра міжваенны перыяд нашай навейшай гісторыі. Час гэты — не такі ўжо і далёкі — аброс рознымі легендамі, зафальшаваннямі. Яўген Вапа ў сваім артыкуле вяртае людзям і падзеям уласцівыя ім памеры. Пазбаўляе іх міфалагічнай абалонкі, якая грубела з гадамі. Паказвае нармальных, жывых людзей і іхні выбар жыццёвай дарогі, які толькі значна пазней набываў якасць гераічнага подзвігу або нікчэмнага ўчынку.**

I

На пачатак маленькі ўспамін з майго школьнага мінулага. Дакладна не памятаю, быў я ў трэцім ці чацвёртым класе гайнаўскага ліцэя, калі па нашай школе, быццам маланка, пранеслася чутка: на Беласточчыну прыязджае Максім Танк і нават мае наведаць наш ліцэй. Нам, тады 17-ці 18-гадовым маладзёнам, гэты чалавек явіўся змагаром за ўсё беларускае, які ніколі не пахіснуўся ў барацьбе (так пісалі ў кніжках, так нам гаварылі на ўроках). Вобраз паэта і змагара, ды яшчэ заключанага ў турме, чаго ж трэба было больш для экзальтацыі?

Аднак Максім Танк адмовіўся наведаць ліцэй, і наш прыўзняты настрой апаў. Але яшчэ не ўсё было патрачана. Даведаліся мы, што Танк будзе ў Гайнаўцы, а сустрэча з беларускім асяроддзем (мы думалі, што з цэлым) адбудзецца ў Гайнаўскім доме культуры. У дзень прыезду пісьменніка разам з Валікам Сельвесюком ледзь мы дачакаліся змроку і пашыбавалі пад дом культуры мо на гадзіну раней, каб, не дай Божа, не праваронiць ягоны прыезд. На месцы пабачылі мы сталы, застаўленыя ядой і гарэлкай, ды пачулі ад аднаго мясцовага выдатнага дзеяча БГКТ: вы яшчэ замаладыя, каб удзельнічаць у сустрэчы з Максімам Танкам.

Так і не ўдалося нам сустрэцца з паэтам, але мы атрымалі першы ўрок, што культура ніколі не будзе эгалітарнай.

Ужо пазней у мае рукі трапіў 6-ы том збору твораў Танка. Змешчаны ў ім успамін ягонай дзейнасці ў камуністычным руху Заходняй Беларусі. Асабліва цікава піша ён пра сходы камуністаў, на якіх яны звычайна ... елі селядцы, пілі чай і дыскутавалі, дыскутавалі, дыскутавалі. А на сходах іншых беларускіх палітычных арыентацыяў нічога не рабілася, адно п'янства ды крывадушнасць. Не памятаю ўжо, ці мы тады зарakліся, што да селядцоў будзем піць толькі чай, але хіба не, бо нашым начным дыскусіям часта спадарожнічалі і мацнейшыя за чай напіткі. Але гэтыя фрагменты ўспамінаў Максіма Танка былі, на працягу нейкага часу, сапраўднай асалодай душэўнага адчаю ў нашым асяроддзі.

Здавалася мне, што маё знаёмства з Максімам Танкам на гэтым і закончыцца. Але, збіраючы матэрыял на магістэрскую працу пра Фабіяна Акінчыца і ягоную Беларускую партыю нацыянал-сацыялістаў (БПНС), давялося мне адбыць яшчэ адну, даволі цікавую „сустрэчу" з М. Танкам — на пажаўцелых архіўных бачынах.

II

21 лютага 1936 г. у Вільні, па запрашэнні Саюза беларускіх студэнтаў Універсітэта Сцяпана Баторыя выступае Фабіян Акінчыц з дакладам на тэму: „Нацыянальны сацыялізм".

# З ДЗЁННІКАЎ
## С. ЯНОВІЧА

**03-07-1988 г.**

Сяк-так пішацца... Чаму так натужліва?! Куды гэта прапала колішняя лёгкасць? Большая дасведчанасць не дазваляе занадта хвацка запаўняць старонкі. Цана слову!

Час ад часу замяшанне з уладкоўваннем фармальнасцяў у сувязі з запрашэннем мяне ў Канаду таварыствам „Беларусь" (паеду з Таняй).

— Туронак супроць супрацоўніцтва з палякамі ў тым сэнсе, што павінна яно быць толькі партнёрскім, быццам дзяржавы з дзяржаваю, а ніколі паслужным! Са сваімі, беларускімі, бедамі мусім даваць рады мы самі; ніхто нам як нацыі не дапаможа (напр., адрадзіць мову). Гэта яго паленіка з маёй тэзаю: наш лёс абумоўлены адносінамі да нас з боку польскай большасці, што лагічна даводзіць да высновы, каб сцісла вязацца, etc.

Думаю, што рацыя і ў гэты раз знаходзіцца — як правіла — недзе пасярэдзіне полюсных пазіцыяў.

**20-07-1988 г.**

10-19-га ў Гдыні (з Таняй). У кватэры Стэмпаў (вул. Уладзіслава IV, 7-15 д., кват. 8). Марк з жонкай жыве ў супольнай з шваграм віле ў прыгарадным Хважне (— Атласа, 13). Кватэра пустуе; займала яе маці (лекарка), якая раптоўна памерла ў красавіку; бацька гэтак жа скончыўся чатыры гады назад, на караблі ў моры.

Марк — архітэктар, працуе ў Гданьскай палітэхніцы. Яго род, відаць, заходнепольскі... Маці — недзе ад Уладавы. Цікавіцца ён „крэсамі"; адсюль і ўвага ў яго да Беларусі. Адкуль гэта ў ім? — не пытаю, не трэба.

Пакарыстаўся запрашэннем Стэмпы, каб праветрыцца, перадыхнуць здаля ад беластоцкага ідыятызму.

11-га і 12-га пахадзілі па старым Гданьску. Як быццам пабыўшы ў Нідэрландах... 12-га адбылася мая аўтарская сустрэча з удзельнікамі настаўніцкіх літаратурных канікулаў (у будынку ля вул. Лястадыя, 2). І хоць дамаўляліся яны са мною нашмат загадзя, давялося паўтараць букварнае (толькі адна асоба прачытала „Białoruś, Białoruś"). 13-га — абед у Стэмпаў (прасядзелі да паўночы). Быў іх малады сябар, Мацей Лісіцкі (адкрыў ён сваё беларуска-рэпатрыянцкае паходжанне, ездзіў на падмінскую бацькаўшчыну). Не надта разбіраюся я ў іхных поглядах... Лібералы? Дэмакраты? — „Alternatywy" No 3, „Białoruś — nieznany sąsiad". Нейкі А. Луціч прыводзіць прыклады, дэталі, як быццам з маіх выступленняў у Польшчы... Інтэлігентны часопіс. Кракаўскі. Галоўная загледжанасць палякаў на ўсход – гэта на Украіну. „Dialogi. Biuletyn polsko-ukraiński" (за '87). Хочуць нечага беларускага? Падобнага? Не тая ў нас патэнцыя і магчымасці!

14-га — караблікам на Гэль, і вяртанне цягніком. Нягледзячы на блізкі Гданьск — глухамань тут была, здагадваюся, векавечная. Свет прыйшоў сюды разам з Польшчай, бо гэтае берагоўе зрабілася жыццёва важным (ёй, а не Нямеччыне). 15-га — у марскім музеі, небагатым. 18-га — караблікам у Сопат. Тут недзе жыве пару беларусцаў, але няма ахвоты адшукаць і пабачыцца з імі. Як у замежжы! Наўкола шуміць несмяротная Польшч. І мы, у параўнанні з ёю, амаль нішто...

Вячэрнія паведамленні: Карабахія не будзе далучана да Арменіі. Каб не было прэцэдэнту? Уяўляю жалобу ў Ерэване...

Цягне дахаты. Час ад часу варта пабыць на чужыне: беларуская перспектыва аднаўляецца ва ўласцівых рамках... Глянуць на сваё з несваёй далечы.

Ноч у вагоне, у дрымоце на месцы для ляжання. Дома: ліст ад Яраслава, нервовы, у тоне праклятай беларускай меланхоліі. Хоча канцэнтравацца ён на музыцы. Патыхае трохі жалем, трохі няясным расчараваннем... Магчыма, што так ува мне ад бацькоўскага комплексу вінаватасці ў нечым, недагляду якогасьці або калісьці?

Несімпатычны водгук Леанчука на беларускія беды („Kontrasty" No 7, „Zapiśnik sołtysa" (9), стар. 46).

У маскоўскай TV фільм-занатоўкі пра становішча вакол Карабахіі: 200 тыс. на мітынгу ў Ерэване, народ не даў нават наблізіцца да мікрафонаў кіраўнікам Арменіі; сітуацыя амаль паўстання, тэрарызм... Вялікі паварот у армянскай свядомасці! Змаганне за Карабахію будзе доўгай гісторыяй. З нямалым уплывам на ажыўленне сярод народаў імперыі. Зрэшты, па меры гаспадарчага развіцця — нацыянальны рух непазбежны. Ён можа быць слабы, але быць будзе! Як наш.

*(Працяг будзе)*

****************************************

# НАСТАЎНІЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

7 красавіка бягучага года ў Нарве адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы ў падставовых школах з удзелам старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства **Аляксандра Баршчэўскага** і новага візітатара Беластоцкай куратары асветы і выхавання **Тамары Русачык**.

Нараўскі шматгадовы вопытны настаўнік **Міхась Зубрыцкі** правёў узорны ўрок па граматыцы з выкарыстаннем як дапаможніка школьнага камп'ютэра.

Падчас канферэнцыі настаўнікі абмяркоўвалі змест новых падручнікаў беларускай мовы для VII і VIII класаў, якія зараз ёсць у друку, а таксама некаторых беларускіх газет і часопісаў.

Як заўсёды цікавым, змястоўным і займальным было для ўсіх прысутных выступленне старшыні ГП БГКТ А.Баршчэўскага. Затым паспяхова былі вырашаны шматлікія арганізацыйныя справы.

Шырэй пра канферэнцыю напішам у наступным нумары тыднёвіка „Ніва".

(ЯЦ)

# ДЗЕЛЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА

( **Працяг са стар. 4** )

пункт у Ялоўцы (які дэ-факта неафіцыйна існуе) для легкавых машын. Быў бы ён трэцім пунктам, размешчаным цэнтральна да тэрыторыі, населенай беларусамі ў Польшчы і ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта аблегчыла б КПП у Кузніцы і Тарэспалі. Адкрыццё пункта было б штуршком для ўзнікнення гастранамічнай сеткі і аўтазаправачных калонак пры шашы і стварыла б магчымасць лепшага турыстычнага выкарыстання вадасховішча ў Семяноўцы і гасцініцы ў Бандарах.

2. Адкрыць прапускны пункт для грузавых аўтамашын у Баброўніках. Даезд з Беластока ў напрамку граніцы добры — шырокая шаша.

3. Адкрыць чыгуначную лінію Варшава-Заходняя — Гайнаўка–Свіслач. Зараз гэты цягнік даязджае толькі да Гайнаўкі і ад 21.05 да 2.50 чакае вяртання ў Варшаву. За гэты час цягнік мог бы заехаць у Свіслач і вярнуцца назад, а скарысталі б з гэтага турысты з Польшчы і Беларусі.

Ажыццяўленне гэтых прапаноў спрычынілася б да актывізацыі гэтага рэгіёна, стварыла б новыя месцы працы для яго жыхароў.

**ТРЫБУН З ГАЙНАЎКІ**

****************************************

... Сустрэча праводзіцца праз 9 гадоў пасля ліквідацыі польскімі ўладамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), пасля разгону пасольскага клуба „Змаганне", у час наступаючай пастаяннай ліквідацыі грамадска-культурна-асветных арганізацыяў, элімінацыі з жыцця беларускага школьніцтва. У тым 1936 годзе будуць развязаны: 2 снежня Таварыства беларускай школы, 4 снежня Саюз беларускіх настаўнікаў. У наступных гадах будуць ліквідаваны: „Беларуская крыніца" (апошні нумар выходзіць 15.04.1937 г.), Беларуская партыя нацыянал-сацыялістаў — кастрычнік 1937, Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні — 15.01.1938, Беларускі гаспадарчы саюз — 16.04.1938. У гады 1938-39 наступае перасяленне або арышт дзеячоў Беларускага народнага аб'яднання (БНА) — былая Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД).

Справаздача Ваяводскай управы ў Навагрудку з сакавіка 1938 г. паясніць нам разуменне польскімі ўладамі „беларускага нацыяналізму" ў палавіне 30-тых гадоў: „W okresie sprawozdawczym stwierdzono nurtujące w Kole Młodej Wsi w Howeżnie prądy nacjonalistyczno-białoruskie. Prądy te wyjawiły się w czytaniu przez młodzież prasy i książek białoruskich oraz w ogólnych nastrojach młodzieży ustosunkowującej się przychylnie do białoruszczyzny. Właściwe zarządzenia mające na celu dalsze szerzenie się tych prądów (гутарка пра ліквідацыю — Я.В.) zostały wykonane".

... На сустрэчу з Фабіянам Акінчыцам прыходзіць каля 40 асоб. Давайце прыглядзімся хаця некаторым удзельнікам сустрэчы, хто яны і якая патрэба сабрала іх у гэтым месцы: д-р. Янка Станкевіч — пасол ад Лідскай акругі ў Сойм у гады 1928-30; інжынер Бусел — эсэр, член рэдакцыйнай калегіі часопіса „Золак"; Язэп Малецкі — дзеяч БХД, ад 26.01.1936 г. сябра Галоўнай рады Беларускага народнага аб'яднання; Ян Пазняк — ад 1928 г. галоўны рэдактар „Беларускай крыніцы", ад 26.01.1936 г. старшыня БНА; Максім Танк — член КПСС з 1936 г., член інструктарскай групы ЦК КПЗБ па рабоце ў дэмакратычных арганізацыях сярод інтэлігенцыі і моладзі (1935-38).

Пасля характарыстыкі праграмы сваёй партыі, Акінчыц сваё выступленне засяродзіў на трох пытаннях: нацыянальным, аграрным і асветным (у нацыянал-сацыялістычнай дзяржаве). Прапанаваная Акінчыцам мадэль дзяржавы, так як усе таталітарныя ідэі, прадбачвала кантроль цэлага грамадства ўладамі, а ядром, вакол якога будзе збудавана сама дзяржава, з'яўляецца нацыянальная справа. Менавіта таму нацыянальнай справе і прысвяцілася найбольш увагі пад час дыскусіі. Янка Станкевіч заявіў, што пагаджаецца з праграмай нацыянал-сацыялістаў, але папракнуў іх у малой агрэсіўнасці. Ян Пазняк таксама лічыў, што нацыянальная ідэя павінна быць найважнейшая ў дзяржаве як фактар, які спалучае народ. У канцы сустрэчы, недзе каля 10 гадзіны вечара, выступіў М. Танк, які падкрэсліў свае сімпатыі да праграмы нацыянал-сацыялістаў і іхняй веры ў выйгрыш гэтага палітычнага напрамку.

Большасць удзельнікаў сустрэчы гэта дэсператы беларускага руху. Спаткацца ў адным месцы дазволіла ім бязвыхаднасць становішча, у якім яны, як і ўвесь беларускі нацыянальны рух, апынуліся. Ані палітыка Польшчы, ані палітыка краіны саветаў не пакідалі ніякіх сумненняў, што ў Варшаве або ў Маскве вырашыцца беларускае пытанне. Патрэбу згуртавання вакол нацыянальнай ідэі, нягледзячы на ранейшыя ідэалагічныя спрэчкі, як і патрэбу супольнага чакання падзей вялікага еўрапейскага фармату, адчувалі ўсе. Дух пагаднення вельмі дакладна адчуў сышчык віленскага ваяводы, які з гэтай сустрэчы склаў тайную справаздачу для 29 усялякіх устаноў, пачынаючы ад Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства замежных спраў, ваяводаў у Заходняй Беларусі, пракурораў, камандзіраў мясцовага войска, канчаючы на старастах і следчых.

III

Калі мела месца гэтая сустрэча, Максім Танк быў рэдактарам газеты „Наша воля", якую ад 24.12.1935 г. выдаваў у Вільні Вінцук Склубоўскі. У нумары 4(5) ад 29.02.1936 г. М. Танк, пішучы „Абразок з натуры" са сходу беларускіх нацыянал-сацыялістаў, заўважыў толькі, што прысутных было 30 чалавек і Ф. Акінчыц сказаў: перад усім падняць у масах такую нацыянальную свядомасць, пакуль на Лукішскім рынку па аўто да фэ не спалім усіх марксістаў.

IV

У энцыклапедыі літаратуры і мастацтва У. А. Калеснік, характарызуючы творчасць М. Танка, піша: „Крыніцай творчасці для Т. нац.-вызваленчы і рэв. рух Зах. Беларусі. Яго паэзія выяўляла глыбінныя настроі пралетарскіх пластоў горада і вёскі, іх барацьбу супраць польск. буржуазіі і памешчыкаў, нянавісць да згодніцтва зах. бел. бурж. нацыяналістычных элементаў з польск. урадам, разуменне, што свабода і справядлівасць могуць быць дасягнуты на шляхах сацыяліст. рэвалюцыі ў Польшчы".

**ЯЎГЕН ВАПА**

 

# ТЭАТР МАЗЫНСКАГА

**Ф**актычна поўная назва яго гучыць: **Тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі „Вольная сцэна"**. Кіраўнік і галоўны рэжысёр гэтага тэатра **Валеры Мазынскі** быў знаёмы чытачам „Нівы" з рацыі яго прабывання ў Беластоку яшчэ тады, калі быў галоўным рэжысёрам Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Сёняшні яго тэатр месціцца пакуль што пры Малой сцэне тэатра Янкі Купалы ў Менску.

Карыстаючыся нагодай, мы папрасілі Валерыя Мазынскага расказаць крыху пра сябе і свой тэатр. Справы, за якія ўзяўся гэты рэжысёр, неабыякавыя для беларускага адраджэнскага руху і, несумненна, вартыя аднатавання.

---

**— Вы ў Менску?!!**

— Атмасфера ўжо была ў Віцебску такая, што далей ваяваць там я не мог. Была ідэя адкрыць у Гародні беларускі тэатр, тым больш, што і ў блізкім Беластоку такога няма. Два гады назад мы мелі з пэўнай колькасцю акцёраў пераехаць у Гародню і заснаваць там такі тэатр. Але ў Гародні нешта некаму не спадабалася, хаця была згода пэўных колаў у Міністэрстве культуры БССР.

Тады мы вырашылі стварыць у Менску Беларускі тэатр-лабараторыю. Наогул лічу, што **смешна гучыць назва „беларускі тэатр" на Беларусі. А які ж ён мае быць? Тэатр на Беларусі, ён жа і ёсць беларускі!**

Але ў тым-то і справа, што на сёння ў нас больш за тры дзесяткі тэатраў, а беларускіх было ўсяго **тры**: тэатр Янкі Купалы ў Менску, Якуба Коласа — у Віцебску, ды Тэатр юнага гледача ў Менску. Ну, і яшчэ тэатр „Лялька", які нарадзіўся пры нашай дапамозе ў Віцебску пяць гадоў таму назад.

Пры такім раскладзе ці ж жыццяздольная наша нацыянальная драматургія?! І таму вырашылі мы стварыць тэатр-лабараторыю. Ад нараджэння, пачатку існавання нашага тэатра мінуў амаль год.

**— Тым не менш у гісторыі беларускага мастацтва, пашукаўшы, можна знайсці больш беларускіх тэатраў...**

— Нацыянальныя тэатры нараджаліся не на глебе нацыянальнай свядомасці, адраджэння, а проста як тэатры. Такія, як тэатр Галубка, яны мелі кароткае лакальнае існаванне, хаця рабілі сваю справу. Яны не мелі добрых паслядоўнікаў. Злая традыцыя наказвала ствараць тэатр увогуле, а яго нацыянальная афарбоўка найбольш выразна праяўлялася менавіта ў назве „беларускі".

**— Нашым чытачам было б цікава даведацца, якія былі пачаткі Вашай творчай дзейнасці, ды наогул — адкуль Вы, як трапілі ў тэатр...**

— Ну, што ж, нарадзіўся я пад Барысавам, у вёсцы Вялікае Стахава, дзе бацькі жывуць і сёння. Закончыў спачатку Архітэктурна-будаўнічы тэхнікум у Менску. Пасля войска паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут (сёння Беларуская Акадэмія Мастацтваў). Ад дзяцінства мяне цягнула кіно, акцёрства. Бацькі не спявалі і не ігралі, не было ад каго вучыцца, але я марыў пра адно: кіно.

Яшчэ ў васьмігодцы я бегаў у кіно на недазволеныя вечаровыя сеансы, хаваючыся ў нагах дарослых гледачоў, каб не падгледзеў настаўнік, які мог бы і налупіць.

Калі я быў ужо ў тэхнікуме, то ўцякаў нярэдка з заняткаў, каб убачыць, як праходзяць кіназдымкі, якія часта тады адбываліся на вуліцах Менска. Аднакурснікі нярэдка кпілі з гэтых маіх зацікаўленняў і любілі падманууць мяне. Казалі, напрыклад, што недзе адбываюцца здымкі, я кідаў усё і бег туды. Сябрам было цікава паназіраць, які я быў расчараваны і злосны, калі вяртаўся на заняткі, так нічога і не ўбачыўшы, бо ніякіх здымкаў тады якраз не было.

**— Як доўга Вы працавалі ў Віцебскім тэатры?**

— Я быў там 15 гадоў. Прыйшоў у 1974 годзе. Там я ставіў п'есу Уладзіміра Караткевіча „Званы Віцебска" — гэта была яго першая п'еса, якая ўвогуле была пастаўлена. Ад гэтага часу пачалася мая адкрытая свядомасць. Так, яна пачалася нават не з інстытута, а ад гэтай п'есы. Караткевіч да сёння застаўся для мяне непаўторнай і недасягальнай велічынёй. Узровень еўрапейскасці беларускай літаратуры я звязваю з Караткевічам.

**— Як Вы адчуваеце сябе ў новых умовах?**

— Адчуваем сябе пакуль што энтузіястамі. Будынак яшчэ будуецца. Што будзе там пад зямлёй — будзе наша.

**— Што паспелі за гэты год?**

— Як бы і многа. Здзяйсняем статут нашага тэатра-лабараторыі. Мы як бы працуем на драматурга. Ён можа нешта змяніць, выкінуць, дапісаць — у часе рэпетыцый.

**— Над чым Вы працуеце сёння?**

— Адразу над чатырма п'есамі. Гэта першыя творы асобных драматургаў, усе яны з правінцыі — не мінчукі. **Уладзімір Сауліч** — з Глыбоччыны („Сабака з залатым зубам"), **Ігар Сідарук** — з Кобрына („Галава"), **Мікола Арахоўскі** — з Брэстчыны („Ку-ку!"), **Сяржук Сокалаў-Воюш** — з Полацка („Кола" — плён яшчэ віцебскага супрацоўніцтва).

Усе гэтыя п'есы небанальныя. Вось „Кола" з яго нетрадыцыйнай сюжэтнай завязкай. З гары імчыцца воз. Сядзяць на ім людзі, якія едуць у рай. Раптам яны пачынаюць разумець, што едуць на апошнім коле. Вось і яно ўрэшце адвалілася і невядома дзе падзелася. Людзі ўжо нават не ведаюць, на чым яны едуць, але ведаюць, што едуць у рай. А потым аказваецца, што шукалі кола, а ўкралі і каня. Між тым людзі ўсё высвятляюць адносіны між сабой...

**— Мы чулі, што з Вамі ў Менск прыехалі і акцёры з Віцебска?**

— Усяго ў нашым тэатры 9 акцёраў. З Віцебска — Таццяна Мархель, Алесь Лабанок і яшчэ пару асоб. Лічу на моладзь з так званага „курса Мазынскага".

**— А што гэта за курс?**

— У Беларускай Акадэміі Мастацтваў пры тэатральным факультэце ёсць аддзяленне акцёраў тэатра і кіно, я ім кірую ўжо другі год. Называюць яго **„Курс Мазынскага"**.

**— Скажыце, калі ласка, ці дапамагае Вам у Вашай працы наша „Ніва"?**

— У Віцебску доўгія гады прадаваліся 4 экземпляры „Нівы". З таго 2 экземпляры бралі мы, працаўнікі тэатра. Сувязі з Беласточчынай нас вельмі цікавяць наогул. Вось нядаўна я напісаў ліст Анджэю Якімцу, дырэктару Беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі. Думаю, што варта нам было б паставіць п'есу ў вашым скансене.

**— Як служыць Вам атмасфера Менска?**

— У сталіцы ўсё ж такі жыць тэатру лягчэй. Хтосьці калісьці сказаў, што калі ты працуеш на правінцыі, дык выпадаеш з поля зроку спецыялістаў...

**— Але не „Нівы"!**

— Хіба што за выключэннем „Нівы"...

**— Пра Вас мы ўжо чулі нават тады, калі Вы былі на правінцыі.**

*(Менск, 19 снежня 1991 г.)*

Гутарыла
**АДА ЧАЧУГА**

**P.S.** — Можа дасце мне нейкі Ваш здымак з акцёрамі?

— Яшчэ не паспеў зрабіць.

****************************************

# ПРАКТЫКУЮЧЫСЯ ДА АРМАГЕДДОНУ

*І сабраў ён іх у месцы, што пажыдоўску называецца Армагеддон.*

*І сёмы Ангел выліў чару сваю на паветра: і выйшаў голас вялікі із храму нябеснага, ад пасаду, мовячы: Сталася!*

*І ўзьняліся галасы, і грымоты, і маланкі, і трасеньне зрабілася вялікае, якога ня бывала ад часоў, як зьявіліся людзі на зямлі. Гэткае трасеньне! Такое вялізарнае!*

(З Адкрыцця Яна Багаслова)

*Халодная вайна закончылася... Мы яе выйгралі... Я даў загад зняць поўную баявую гатоўнасць нашых самалётаў з ядзернай зброяй...*

(З прамовы Дж. Буша ў Кангрэсе)

Я — ветэран халоднае вайны. Неўзабаве пасля таго, як прыйшоў да ўлады Гарбачоў, я даваў інструктаж экіпажу Б-52, які ў выпадку ядзернае вайны меў выстраліць 12 самакіравальных ракетаў з ядзернымі боегалоўкамі на савецкія вайсковыя цэлі. Заданне экіпажу самалёта было наступнае: увайсці ў савецкую паветраную прастору, выстраліць ракеты кароткага абсягу і спусціць чатыры гравітацыйныя ядзерныя бомбы. Слова сказана, работа зроблена — іхнім наступствам прыблізна 7760 кілатон ядзернага ўсеахопнага агню, больш-менш у 485 разоў павялічвае хірасімскае пекла.

Шэсць гадоў, як навігатар самалёта Б-52 і бамбардыер, я гарбеў над аперацыйнымі картамі, спярэшчанымі трохкутнікамі цэляў у глыбіні і на ўскраінах рэгіёнаў, якія цяпер перажываюць пакутлівыя роды дэмакратыі. Я адбыў 100 практыкавальных палётаў, у якіх усё паўтараў ядзерныя атакі з такімі файнымі назовамі як „Маскоўскі экспрэс" ці „Чырвоны світанак". На кожныя тры тыдні адзін тыдзень я праводзіў у паласе ядзернай гатоўнасці, працягваючы тую даўжэзную зялёную лінію, якая пачалася ў 1957 і закончылася зусім нядаўна. Назбіралася мне 1200 гадзін у паветры, бальшыня з якіх прысвечана была практыкаванням да Армагеддону. Пра ядзерную вайну я ведаю больш, чымсьці мне ведаць хацелася.

Кажу ўсё гэта не таму, каб хваліцца — у лёсе ядзернага ваяўніка ніколі не было аніякай прывабнасці. Рэкрутацыйныя афішы ніколі не расхвальвалі службы на самалётах з ядзернымі бомбамі, і ніхто не рабіў фільмовых агітак пра „Звышбомбу". Мы былі нябачнымі ваяўнікамі, людзьмі на рабоце, пра якую ведала няшмат амерыканцаў і якой, як мне здавалася, яшчэ менш тлуміла сабе галаву. Нябачныя ці не, мы былі прафесіяналы, знакаміта падрыхтаваныя і да немагчымага гордыя.

Маёй прафесіяй было ядзернае паўстрыманне. Я завучаў на памяць і практычна выконваў кожны этап ядзернага бамбардавання, пакуль яно не сталася механічным навыкам, беспачуццёвым і халодным. Кожнага ранку, прыступаючы да баявога дзяжурства і кранаючыся рукамі мегатоннай боегалоўкі, я адчуваў дрыжыкі ад таго невымоўнага жаху, які змяшчала тая непрыкметная жалезная абалонка. Але маім заданнем было спусціць яе на цэль, а не дыскутаваць пра маральнасць.

Нават сёння, праз пару гадоў пасля мае апошняе вучэбнае атакі, я ведаю на памяць канчатковы ланцужок камандаў перад спускам бомбы. Пасля прэзідэнцкага пацвярджэння ядзернай атакі і 27 бачынак правяральнае працэдуры, спуск бомбы наступае ў выніку кароткага дыялогу паміж навігатарам самалёта Б-52 і бамбардыерам (бачынка з назовам „Спуск бомбы (ядзернай)"):

— Засцерагальнік бомбы?

— Зняты.

— Паказальнікі блакады спецыяльнай зброі?

— Паказанне — адблакаванне.

— ЗСВ (Замыканне сістэмы выкіду)?



 

 

## ДАУНІЯ МОГІЛЬНІКІ У ВОЙШКАХ

На палях вёскі Войшкі знаходзяцца старадаўнія могільнікі, якія мясцовыя жыхары завуць „могілкамі".

Першы могільнік — над ракой Нарвай, распаложаны на паўночным высокім яе беразе каля ўрочышча Прыстань. Сярод навакольнага насельніцтва жыве некалькі паданняў пра гэты могільнік. Адна з легендаў гаворыць, што ў гэтым месцы стаяла царква, а побач з ёю знаходзіўся гэты могільнік. Другая легенда расказвае, што на гэтых могілках хавалі памершых у час эпідэміі халеры жыхароў Войшак. У трэцяй легендзе гаворыцца, што там быў пахаваны ваяўнік высокага рангу разам з багатымі даспехамі і зброяй. У 1905 або 1906 годзе адзін з жыхароў Войшак, выпускнік аднаго з пецярбургскіх інстытутаў Ян Шымчук-Рудэчка стаў сам весці археалагічныя раскопкі на гэтых могілках. На самым высокім месцы могілак, 1,5 м пад зямлёю, выкапаў ён вялікую колькасць драўлянага вугалю і рэшткі ад вогнішча. Сцвердзіў ён, што быў тут „майдан", на якім гналі дзёгаць. Да нашых дзён на гэтым могільніку захаваўся адзін помнік з высечаным прозвішчам: Ясюк Базылі. Сёння на месцы могільніка размяшчаецца адпачынковы комплекс і ад могілак амаль нічога не асталося. Аднак, уважлівы наглядальнік, ідучы над ракой, можа на высокім размытым беразе ўгледзець людскія косці.

Другі могільнік знаходзіцца ў 500 метрах на паўночна-ўсходні бок вёскі. Сёння гэта пагорак з сасновым борам. Могілкі былі ў свой час абведзены ровам, а след па ім відаць і зараз.

Трэці могільнік называюць французскімі могілкамі і знаходзіцца ён ва ўрочышчы Здуновы Ямы, з заходняга боку палёў вёскі. Заснаваны быў ён, праўдападобна, у 1813 годзе і хавалі там французскіх салдат, якія вярталіся з-пад Масквы. Узнікае, аднак, сумненне, ці сапраўды могільнік знаходзіцца ў гэтым месцы. У 1963 годзе, у час будовы дарогі Войшкі—Трычоўка, у адлегласці 300 м на поўдзень ад урочышча Здуновы Ямы, былі знойдзены дзве масавыя старыя магілы. Выкапаныя людскія чэрапы мелі ўсе зубы і былі гэта, праўдападобна, мужчынскія шкілеты (вельмі доўгія косці ног). Па гэтаму можна меркаваць, што маглі тут быць пахаваны салдаты арміі Напалеона. Гэтае меркаванне падмацоўваюць скураныя сумкі, знойдзеныя пры шкілетах.

**Я.Р**

# НОЧ У БАБУЛІ

Зіма, мароз з завеяй, позні вечар. Дзіцё ў калысцы спіць, а я яго калышу згодна з прынятым у нас рытуалам: стоячы і без перапынку. Вельмі хочацца есці. Бацькі ўсё няма з вечарынкі: яму там весела сярод равеснікаў у Баранавай краме, дзе выдумваюць розныя жарты. Але весела сёння і ў нашай хаце, дзе вакол пашчэрбленага стала расселіся кудзельніцы і пры капцілцы спяваюць смешныя песні.

Прытвараюся, што выходжу з хаты за сваёй патрэбай. Зачыняю дзверы ад сенцаў і гайда да бабулі. Мо яшчэ не спяць там, то дадуць мне паесці.

— Дзіця, чаму ты босае, ды ў адной сарочцы? — пытае бабуля. Маўчу, бо плакаць хочацца... Ногі колюць да болю сэрца, а зубы ляскаюць. Маўчаць таксама дзядзькі і дзядзіны. Яны ўжо павячэралі, спаць лягаюць, позна ж. Мяне ніхто не пытае, чаго прыбег. Наадварот — баяцца, каб не папрасіў есці. Але бабуля ведае, што я ніколі ў іх не прасіў. Ведае, чаго прыбег, але баіцца. Мо нават злосная на мяне за тое, што лішні клопат ёй нанач прынёс.

У дзядзькоў дзяцей многа; на адным ложку лягаюць па некалькі асоб. Але бабуля літуецца нада мною — назад дадому не гоніць. Кідае на падлогу лахман, які калісьці пінжаком зваўся, і выходзіць на кухню. Я лягаю на ім, скручваюся калачыкам і цешуся, што замест стаяць ля калыскі і рызаваць — ляжу.

Дзядзька дзьмухнуў у газоўку і ў хаце стала зусім цёмна. — Мала ёму дома, то яшчэ сюды прыбег. У нас і самых е кому есці.

— Мовчы, спы!

Хутка ўсе заснулі: хто сапе, хто храпе... Ці заснулі ў кухні на печы бабуля з дзедам — не ведаю, але іхні ціхі гоман ужо да мяне не даходзіць. Ім таксама добра на цёплай печы. Кажуць, што я калісьці зваліўся з яе і зламаў нагу. Але я не памятаю гэтага, бо было мне тады ледзь тры годзікі. Антоній нагу злажыў, загаілася. Думкі гэтыя міжвольна блыталіся ў маёй галаве, але галоўная, як той швэд, тачыла мазгі: хлеба, хлеба... А ў страўніку — піск. Мо б так з-пад абруска ўкрасці кусок хлеба? Баюся, каб хто не прыкмеціў. Злодзеем назавуць. Ад парога цягне холадам; стараюся ўкутацца ў пінжак, але ўсё роўна холадна. Чаму мне бабулька не дала павячэраць? Ці ж яна не ведае, што дзеля таго толькі я сюды і прыбег?! А мо ўсё з'елі і нічога не асталося? Не, няпраўда. На стале пад абруском ляжыць паўбуханкі хлеба... Чаму яны яго не з'елі? Відаць, наеліся, а я б яго з'еў...

Хтосьці нешта замармытаў праз сон, хтосьці закашляў, ды на другі бок павярнуўся. На гарышчы нешта загрукатала. Мне стала страшна. Мо дух які яшчэ ў хату ўвойдзе ды мяне першага схопіць? Раптам ціхенька адчыняюцца дзверы і бачу: Ісус Хрыстос на парозе стаіць. Глядзіць на мяне, маўчыць, дык і я моўчкі гляджу на яго — чакаю, што скажа. Але праз некалькі хвілін Хрыстос быццам бы расплыўся ў паветры, знік, зачыняючы за сабою дзверы.

Я ляжу, але ўжо не баюся нічога. Холадна, але ж куды цяплей, чым на двары. Скручваюся так, што каленьмі бараду кранаю, каб пад пінжаком змясціцца, і засынаю... Раніцай абудзіў мяне нейкі шорах ды смурод. Гэта адно з дзяцей баялася ўначы выйсці на панадворак і нарабіла на падлогу ля мяне, каб выглядала, што гэта я. Як толькі разднела, я пабег дахаты, як нейкі віноўнік ды хітрун...

Да сёння не ўцямлю, што прадказаў мне Ісус Хрыстос, які з'явіўся на парозе дзедавай хаты. Думаю ўсё ж, што нічога добрага...

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

**( Працяг са стар. 1 )**

звярнула ўвагу на фальклярыстычную дзейнасць і на будову Беларускага музея ў Гайнаўцы, што мае шанц стаць цэнтрам беларускай культуры. У гэтай справе БДА таксама мае іншы погляд, менавіта гаворыць аб лакалізацыі цэнтра культуры ў Беластоку.

На заканчэнне сп. Б. Бэрдыхоўская выявіла погляд, што незалежна ад ацэнак дзейнасці беларускіх арганізацый у Польшчы, то як і раней, адзінай вымернай — з'яўляецца БГКТ, што мае членскія ўзносы, статыстыку і спіскі членаў, статут (хаця той можа вымагае верыфікацыі). Папярэдзіла аднак, што ў адрозненне ад практык мінулых гадоў, дзяржава прадбачыць датацыі толькі прадметныя, як напр. на „Ніву", „Часопіс", магчыма — на фестывалі песні і т.п., але не на ўтрыманне арганізацыі.

У дыскусіі Аляксандр Баршчэўскі ацаніў даклад як аб'ектыўны. Старшыня БГКТ паінфармаваў прысутных, што ў сучасных умовах асновай дзеяння падлеглай яму арганізацыі з'яўляецца паступовая праграмная дэкларацыя, а не ўстарэлы статут, і запэўніў, што з боку БГКТ няма тэндэнцыі ваявання ані з БДА, ані з якой-колечы іншай беларускай арганізацыяй. Драму беларускага руху ў Польшчы бачыць А. Баршчэўскі ў пазбаўленні фінансавай дапамогі дзяржавай, з аднаго боку, і, з другога боку, у абыякавасці ўладаў і адсутнасці рэакцыі на павелічэнне коштаў утрымання клубаў, што давядзе да несумненнай іх ліквідацыі. Павелічэнне платы за памяшканні агулам да 60 мільёнаў злотых у месяц не вымагае, на думку А. Баршчэўскага, каментарыя. Выразіў погляд, што Беларусь з Польшчай павінны раўнаважыць узаемнасць , м. інш. і ў адносінах да нацыянальных меншасцяў.

Чэслаў Сэнюх сфармуляваў думку так: беларусаў у Польшчы і палякаў на Беларусі ў аднолькавай ступені павінна абавязваць лаяльнасць да дзяржаў, у якіх яны жывуць. У перакананні Б. Бэрдыхоўскай асновай да ўзаемных адносін павінны быць перад усім міжнародныя дагаворы, а не ліцытацыя грамадскіх суадносін краін, што можа разбуджаць нацыяналістычныя паставы.

Вычарпальны, наогул, даклад Б. Бэрдыхоўскай, несумненна, прыблізіў, асабліва польскім сябрам клуба, праблему беларускай меншасці ў Польшчы.

***

— Уключана, лямпачка свеціцца.

— ПВБ (Паказальнік выкіду бомбы)?

— Выбраны, лямпачка згасла.

— Галоўны ўключальнік спуску?

— Падключаны, лямпачка свеціцца.

І так далей, пакуль не праверацъ яшчэ некалькі кантрольных лямпачак і ўключальнікаў. Дзверцы бомбавай камеры адчыняюцца секундай за некалькі да выкіду — доўгіх секундаў, калі заміраe сэрца ў цішыні, якую абрывае спецыяльны кліч гэтай фірмы: „Бомба пайшла!" І ўсё. Не надта каб з шыкам, як на рэпетыцыю пекла тут і цяпер.

На жаль, мы занядбалі ўрокі для нашых дзяцей пра ядзерны пісталет, усё яшчэ прыстаўлены да галавы чалавецтва. Мы гаворым ім пра наркотыкі і AIDS, але не ў змозе перадаць жахлівай карціны свету, набітага да адказу зброяй масавага знішчэння. Ці маладыя амерыканцы сёння разумеюць упарыстасць прэзідэнта Буша, што тычыцца знішчэння іракскай ядзернай праграмы? Ці разумеюць яны, што перамога ў халоднай вайне не пазбавіла нас ад ядзернага дэмана? Ці пераказалі мы нашым дзецям — заўтрашнім правадырам — тыя жудасныя вобразы, якія прымусяць іх супрацьставіцца, калі нейкі дэспат — прыхільнік III вайны пачне купляць альбо вырабляць ядзерную зброю, хай сабе нават і самую прымітыўную? Мяркую, што не; таму прапаную прыгляянуцца разам са мною да наступстваў ядзернага выбуху.

Ядзерны выбух дае цеплавое выпраменьванне, ударную хвалю і ядзернае выпраменьванне (радыяцыю). Цеплавое выпраменьванне (цяпло і святло) бярэцца з агністага шара, які ўтвараецца, калі велізарная колькасць тэрмічнай энергіі перагравае паветра вакол цэнтра выбуху. Шар высылае дзве хвалі. Цяпло з першай хвалі нішчыць вадкасць тканку сятчаткі, спрычыняючы яе хімічнае пашкоджанне. Другая хваля выклікае апёкі настолькі страшныя, што рысы твару знікаюць пад суцэльнай ранай (пра такія выпадкі засведчыў д-р Мічыхіка Хачыя, які перажыў Хірасіму).

Далей, з цэнтра выбуху, у якім сабраліся моцна скампрэсаваныя газы, выходзіць хваля, несучы смерць у неверагодным ветры, які літаральна раздзірае людское цела. Ударная хваля выклікае таксама моцную кампрэсію (звышціск). У большыні выпадкаў гэты звышціск расплюшчвае цела, выклікае нутраныя крывацёкі і нішчыць нутраныя органы.

Непасрэднае і пасрэднае апрамяненне прыдзяляе канчатковую смяротную дозу, уваходзячы ў цела праз удыханне паветра, прыманне ежы і абсорпцыю. Наступствы апрамянення шматлікія: знішчэнне касцявога мозгу, лёгкіх, пашкоджанні страваводнага шляху, клетачныя мутацыі і іанізацыя тканкі. Пры гэтай апошняй, прыкладна, вада і соль, прысутныя ў чалавечым арганізме, іанізуюцца (хімічна змяняюцца) і могуць утварыць злучэнне, званае натрыевым шчолакам (NaOH)... субстанцыю накшталт хімічных сродкаў, якімі чысцяць унітазы ў туалетах.

Пачварнае? Жудаснае? Неверагоднае? Абсалютна. Але такая рэальнасць ядзернае зброі — прычына, чаму канвенцыянальная вайна з'яўляецца меншым злом, калі не дапускае Садамаў Хусейнаў гэтага свету да набыцця гэткае сілы.

Дзесяцігоддзямі мы чакалі ўпадку камунізму ў Савецкім Саюзе. Спадзеючыся, што наша пазіцыя сілы прымусіць плыткія абяцанкі Леніна і Маркса зыйсці з дарогі перад геніем Джэферсана і Медысана. І яны зыйшлі.

Я ганаруся тым, што служыў у ядзерных сілах, што быў адным з нешматлікіх выбраннікаў, якія былі гатовы зрабіць недапушчальнае, але былі гатовы з тым перакананнем, што самай нашай прысутнасці хопіць, каб папярэдзіць выкарыстанне нашага ўмельства. І яе хапіла. Халодная вайна закончылася, але наша пільнасць — не. Імперыя Зла абанкруцілася і разляцелася на кавалкі, але ў ейных руінах далей ляжыць зерне Армагеддону. Калі яго не пільнаваць, яно, безумоўна, пасыплецца на яшчэ страшнейшыя палеткі.

**C. JAMES NOVAK**
**(Newsweek, 09.03.1992)**
**Пераклаў Я. М.**



 

Сядзеў я на чарговым валасным свяце „Бай-люлі" і распірала мяне макатранская гордасць. Вось і знайшлі мы тую платформу, якая ўсіх нас аб'ядноўвае, — думаў я. — Гэта песня! На яе кліч сціхла (каб навек) варажнеча. Сядзім мірна, локаць у локаць, праведнікі і адступнікі, агнецы і чорнападнябенцы, дэмакратычныя аўтакраты і левабярэжцы, удовы па ідэалах і нованароджаныя дутаславічы, удзельныя князі, разнамасныя атаманы і ўладалюбівыя прэзідэнты. Як пішуць знатакі, галаканцэрт праходзіць з аншлагам. Толькі адзіночна, як марныя плямкі на душы, чырванеюць задзірлівай грэблівасцю парожныя крэслы „прамінэнцкіх" радоў. Макатра не без задавакаў. Як ні старайся, управа, усім не дагодзіш. Аднойчы, у падобных абставінах, першая дама абарыгеннага хаўрусу таксама „дэманстрацыйна" пакінула вялікую залу: бачыце, зняважылі ейны прэстыж, пасадзілі за плячыма менш заслужанага тулава. На гора ганарлівцы ніхто мяцежнага парыву не прыкмеціў (не грукнула нават дзвярыма) і потым, у час ветэранскай настальгіі, не магла знайсці сведка, які пацвердзіў бы верагоднасць колішняга бунту. Так будзе і з новаважнецкімі. Ды хай іх нячыстая мілуе! Мы цешымся: такога высокага і шырокага прадстаўніцтва яшчэ не бачылі. Ад самой думкі, што пашанцавала некалькі гадзін падыхаць супольна спрэсаваным дадатнымі эмоцыямі паветрам, у мяне закружылася галава. Захадзіла яна хадуном, калі выйшаў на памост Зялёнае Сонейка і пачаў страшыць нас таварышам Маўзерам. У недаўменні я падумаў: абраў правіцель наш згубную тактыку — толькі што палохаў святароў — і чым — страшным судом, а цяпер, значыць, наводзіць страх на абшчыну. Сумненні мае развеяў таталітарны інвалід Чухай Хвост, што сядзеў за маёй спіною. Ён мігам схапіў княжацкую думку і бухнуў у маё вуха:

Хто там шагае левай?

Правай!
Правай!
Правай!

І, сапраўды, на памосце крочаць, спатыкаючыся на правую нагу, бравыя падбелавежскія жаўнеры і славяць сваіх афіцэраў (ці не тых, што на зары мінулай эпохі, як вучыць Зялёнае Сонейка, у пух і прах разносілі саплівых камісараў?).

Як мовіў Пірог-Дацэнтовіч, усё ў руху, усё мяняецца. Памост занялі „Дзецюкі-спрыцюкі". Баяць пра дзеда, бабу і самаход. Макатранскія хітруны,

## Піражкі з макам

# БАЙ -ЛЮЛІ

прапануюць Валэнсе памяняцца ролямі: мы, маўляў, будзем ездзіць па казачным свеце, а ты працуй за нас. Вызваляюцца запаветныя пачуцці. Зала аднадумна ўхваляе задуму.

Не паспелі мы выцерці спацелыя ад гістарычнага акта лабы, як барадаты вядучы агарошвае нас вялікапірагійскім акцэнтам: збянтэжаную малалетку называе „любоўніцай". Бязбацькавічы на галёрцы зайшліся спазмам захаплення, а барадач, нацыскаючы на прывычны яснапалійскі склад, далівае масла ў полымя, хваліцца кавалерскімі павадкамі — рэдка начуе ў хаце. Ну і нораў! Малойчык хвацкі, верым ягонай заяве і воплескамі падтрымліваем грэшнае імкненне.

Ажно чуваць ваякі сігнал прывабнай сяброўкі рэзвага барадача:

— Адбярыце пух ары!

Дзе той арын пух, і ў каго ён — не кажа. Пан Мацюк, які сядзіць побач, тлумачыць:

— Odbierzcie puchary!

І кубкі, што стаяць на памосце, без бойкі трапляюць у заслужаныя рукі. Усе добра разумеюць у чым справа. І я толькі дзеля забавы прыкідваюся авечкай. Мова ў нас свая, макатранская. Яна, як і мы, паміж яснапалійскім таўкачом і белапірагійскай макатрой. Таму чуем: „Першае месца выспявала" тая і тая. А „выспяваць" па-белапірагійску, значыць стаць спелым. Але мы ведаем у чым справа: „Pierwsze miejsce wyśpiewała" і г.д. Што рабіць з гэтымі піражкамі? Галоўныя героі, каб выйсці на валасны памост, праходзяць праз конкурсныя мыта. І атрымліваецца добра. Абслуга выпушчана з-пад увагі. Прапаную суфлёра з кваліфікаванымі шпаргалкамі.

А вось чаму я павінен выпрамляцца на зважай, як толькі запяюць першабытную „Бай-люлі", дальбо не ведаю. Хто выдумаў катаваць нас гэтым недаспелым гімнам? І, самае дзіўнае, пад яго гукі прымаюць патрыятычную стойку нашы парнаскія Сізіфы. Чаму яны не грымяць высакародным гневам на здзек над крынічнай белапірагійскай мовай? Адарваліся ад сваёй гары? Ускочваюць камлыгу на еўрапейскія арбіты?

Але і я вас ужо забайлюлюкаў. Дык да новага „Бай-люлі"!

**СІДАР МАКАЦЁР**




### ДЗЯКУЙ!

Свае дакументальныя фільмы я ствараю пераважна на Беласточчыне. Заўсёды падкупляла мяне тут вялікая сардэчнасць простых людзей, якія верылі мне і арыентаваліся ў тым, што я раблю.

Аднак жа частка ўладаў, так званай колішняй наменклатуры, глядзела на маю працу з недаверам, а часта нават з іроніяй. Хтосьці калісьці мне нават сказаў, што я, як Санча Панса, ваюю з вятракамі...

А пасля сваіх фільмаў я атрымлівала лісты (найчасцей з цэнтральнай Польшчы), у якіх была апрабата; людзі віталі тое, што парушаю непапулярныя тэмы.

Беласток заўсёды быў для мяне беларускай сталіцай у Польшчы. Былі ў мяне калегі ў „Gazecie Współczesnej", а „Ніва" атаясамлівалася мне з Адай Чачугай, з якой я любіла гутарыць па-беларуску, хаця нашы погляды на многія справы не заўсёды былі адэкватныя. Але якія б не былі яе погляды, яны заўсёды мяне інспіравалі.

Пасля быў перыяд майго маўчання, застою. Маўчанне творцы, выклíканае не па маёй прычыне. Але нават у найцяжэйшыя хвіліны артыстычных фрустрацый, калі я прыязджала на Беласточчыну, сягала па „Ніву", якую акуратна складала для мяне (дакладна прачытаўшы перад гэтым) мая амаль 90-гадовая сёння маці. Мне хацелася мець сталы кантакт з гэтай газетай, пабачыць, як „Ніва" адлюстроўвае ўсё тое, што дзеецца ў Польшчы.

Не заўсёды знаходзіла я тое, чаго спадзявалася.

У апошнім часе я з прыкрасцю сцвярджаю, што лідэры беларускасці зафасцынаваліся палемікай між сабою, не бачачы людзей вакол сябе, якія чакаюць ад іх не гэтага, а нейкага рэцэпту на спосаб жыцця тут, дзе іх дом і дзе нарадзіліся іхныя прапрадзеды.

Якраз рабіла я фільмы пра беларусаў, якіх НКВД у 1940 годзе вывозіла ў Сібір, нягледзячы на іх беларускасць і праваслаўнасць, канкрэтна пра сям'ю Вольгі Казлоўскай з Навін, што каля Нараўкі. Ізноў у матчынай хаце пачала дакладна гартаць „Ніву", бо ж у апошні час у Варшаве купіць яе амаль немагчыма. Заінтрыгаваў мяне загаловак: „Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў" і прозвішча аўтара: Ада Чачуга, і пасля я ўжо сачыла за гэтым цыклам да канца.

Праз гэтыя артыкулы я ўпершыню даведалася, як жывуць беларусы, якіх лёс кінуў у Амерыку. Вельмі ўважліва глядзела я на твары гэтых людзей, якія былі на здымках. Даведалася, хто яны, чым жывуць, аб чым мараць. Гэтыя людзі заімпанавалі мне, заўстыдалі мяне, што замала раблю я для беларушчыны. І я зразумела, што павінна ў сваёй працы быць намнога больш самаахвярнай.

Дзякую Адзе Чачузе за прыбліжэнне мне іх спраў, іх псіхікі, іх спосабу на жыццё. Мне — як творцы, які робіць фільмы — найбольш заімпанавала тая лёгкасць і прастата (не мыліць з прастацтвам!), з якой аўтарка перадала чытачу ўсё тое, што пабачыла ў амерыканскіх беларусаў. Гэта вялікае майстэрства — перадаць усё так спантанна, быццам бы толькі што зарэгістраваныя размовы.

Зрэшты, артыкулы спадабаліся не толькі мне. Часта вясковыя людзі, якіх сустракала я ў сваіх вандроўках, казалі: „Во, бачыш, куды нашыя людзі ездзяць і як хораша беларусаў апісваюць! Усё як жывое бачыш". Шкадавалі, што цыкл скончыўся.

Паколькі я не з вашага асяроддзя, гляджу на справу, магчыма, больш аб'ектыўна. Вельмі добра, што хоць часамі такія артыкулы паяўляюцца ў „Ніве".

**ТАМАРА САЛАНЕВІЧ,**
**Варшава**




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Адзела), Варшава 1928**

— 60 —

**РАЗДЗЕЛ XXV**

**1. Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Чэшскай Празе ў днях 26—30.IX.1921 і яе пастановы.**

У верасні 1921 года была склікана (урадам Ластоўскага) у Чэшскай Празе палітычная канферэнцыя беларускіх дзеячоў, на якую прыбыло 37 дэлегатаў з розных бакоў Беларусі. Найбольш шматлікая была прадстаўлена Ковенская Літва з Ластоўскім на чале. У канферэнцыі прымалі ўдзел наступныя групоўкі:

Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў — 18 асоб,
Беларуская партыя Сацыял-федэралістаў — 6 асоб,
Нацыянальныя сацыялісты — 5 асоб,
Сацыял-дэмакраты —3 асобы,
Беспартыйныя — 5 асоб

Дэлегаты прадстаўлялі быццам бы 42 беларускія грамадскія і палітычныя арганізацыі.

Пленарныя пасяджэнні працягваліся пяць дзён ад 26 да 30 верасня 1921 года. З'езд адкрыў Ластоўскі доўгім інфармацыйна-справаздачым дакладам. Гаварыў аб межах з 1772 года, аб рыжскім мірным трактаце, аб крывадушлівасці польскіх і савецкіх дыпламатаў. З прывітальнымі прамовамі на з'ездзе ад імя сваіх арганізацый выступілі:

Лазараў — як прадстаўнік рускіх эсэраў,

Лартос — як прадстаўнік украінскіх сацыял-дэмакратаў,

Айола — як прадстаўнік грузінскіх сацыял-дэмакратаў.

Пасля іх прамаўлялі другія, прадстаўляючы ў песімістычных чорных колерах стан раздзеленых паміж Польшчай і Савецкай Расіяй беларускіх земляў.

Калі выступілі ўсе са спіску прамоўцаў, была прынята аднагалосна ніжэй прыведзеная рэзалюцыя:

1). Рэзалюцыя аб дзяржаўнай сістэме Беларусі.

Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Празе, разгледзеўшы дзяржаўную сістэму Беларусі, здаючы сабе справу з выключнай важнасці гэтай праблемы, канстатуе:

а) Беларусь з'яўляецца краінай працоўнага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі і з гэтых прычын Беларусь павінна быць дзяржавай працоўных мас,

б) Беларусь павінна быць дзяржавай нераздзельнай і ад нікога незалежнай. Канферэнцыя заяўляе, што ніякія так званыя арыентацыі не могуць быць падставай дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзінай падставай дзяржавы і адзінай сілай, якая адродзіць Беларусь і гарантуе ёй маральнае развіццё, ёсць працоўны беларускі народ.

в) З момантам ажыццяўлення беларускай дзяржаўнасці, з момантам устанаўлення на беларускай зямлі ўласнай, ад нікога незалежнай улады, Беларусь працягне руку да ўзаемнай згоды для свабоднага саюза ўсіх народаў, якія жывуць побач з беларускім народам. Першым абавязкам такога саюза павінна быць ахова нацыянальных свабод, дасягнутых у рэвалюцыйнай барацьбе паасобных народаў. Лічачыся з сучасным палажэннем Беларусі, Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя сцвярджае:

1) Адзіным заканадаўчым органам Беларусі з'яўляецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якой была перададзена ўлада Першым усебеларускім кангрэсам з 1917 г.

2) Адзінай законнай уладай на Беларусі з'яўляецца ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, які мае мандат ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беручы пад увагу тое, што дзейнасць урада Беларускай Народнай Рэспублікі адпавядае тым заданням, якія былі прыняты Канферэнцыяй і што ў першую чаргу дзейнасць гэта скіравана на абарону нераздзельнасці і незалежнасці Беларусі „Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя" пастанавіла аб'яднаць вакол урада Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе беларускія палітычныя партыі, арганізацыі і групы для супольнай мэты — будавання беларускай дзяржаўнасці". (Пераклад з польскай мовы — А.Б.).

**(Працяг будзе)**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

## КАТЫ

У мяне былі каты.
Адзін называўся Латка.
Другі быў Мурчык.
Трэцяга звалі Бімэк.
А чацвёртага — не было.

**Ада Сяменюк, 7 гадоў, Беласток.**

*

**АДРАС МЫШКІ ПІК-ПІК, ДЗЯЎЧЫНКІ ВЕРАНІЧКІ, КОТКІ ПЕПІТЫ, ВІКТАРА ШНІПА І ЛЮДМІЛЫ РУБЛЕЎСКАЙ:**

Беларусь, г. Менск, вул. Волаха, д. 9, к. 1, кв. 40, **Людміле Рублеўскай.**

## ВЕРБНІЦА (УВАХОД ГОСПАДА У ЕРУСАЛІМ)

Свята ў памяць уваходу Госпада ў Ерусалім. Людзі спадзяваліся, што сустракаюць будучага цара, які нясе ўладу зямную. Але Хрыстос прапаведаваў Царства Духоўнае. На гэта свята замест пальмавых галін беларусы прыносяць у храм галінкі вярбы. У народзе гэты дзень называюць Вербнай нядзеляй.

У Вербную нядзелю ў цэрквах асвячалі галінкі вярбы, сцябалі імі адзін аднаго і прыгаворвалі: „Не я б'ю — вярба б'е, за тыдзень — Вялікдзень". Сцебануўшы незнаёмага хлопца, дзяўчына пыталася ў яго імя, каб па ім даведацца пра імя будучага мужа. Асвячонай вярбе надаваліся гаючыя ўласцівасці, яе захоўвалі ў хаце. Галінкай такой вярбы выганялі жывёлу на першы выпас. На Піншчыне калісьці, каб не балелі зубы, каб не было ліхаманкі, з'ядалі 9 вербных пупышак.





Чаканне.




Мама на мяне накрычала:

— Каму казала не бавіцца на вуліцы?! А ты дзве гадзіны прападала недзе!

— Я дзве хвілінкі была! — пакрыўдзілася я. — І не прападала, а гуляла.

— Ты пайшла ў восем. А зараз — дзесяць! Зірні на гадзіннік.

— Дык гэта ж у пакоі дзесяць!

— І ў пакоі і на вуліцы час адзін.

— Не! Гадзінніку надакучыла вісець на сцяне. І ён спяшаецца.

— Выдумваеш! — Мама усміхнулася. — Час адзін. Усюды.

Я ўздыхнула. У дарослых — адзін. А ў дзяцей — зусім іншы...

Мама спытала:

— Чым жа твой час адрозніваецца ад майго або татавага?

— У дзяцей ён вясёлы. І не заўважаеш, як бяжыць.

— А ты настрой з часам не блытаеш?

— Не! Ты ж сама зірнеш на гадзіннік і радуешся: „Ой! Як хутка час праляцеў!" Або ўздыхаеш, калі ён вельмі цягнецца.

— Гэта толькі здаецца.

— Не здаецца, мама. Лепш купі мне гадзіннік. Ты ж абяцала. І не будзеш болей сердаваць, што баўлюся на вуліцы. Сама ўбачыш: гэта толькі здаецца.

Вечарам у мяне быў гадзіннік! Я і заснула з ім на руцэ. І ранкам, калі прачнулася, вачэй не магла адвесці ад гадзінніка. Хацелася дазнацца, чаму ён цікае і што ў ім схавана.

Я адцягнула галоўку гадзінніка ад корпуса. Бачыла: так робяць дарослыя. І пачула лёгкі шчаўчок.

Спалохалася. Прыціснула галоўку да корпуса. Не, нічога не здарылася.

Зноў адцягнула. Пачала круціць то ў адзін, то ў другі бок. Стрэлкі — во дзіва! — адразу ж забегалі ўперад, назад.

І раптам зразумела: я ўладар часу! Нібы чараўніца! Ганю наперад, вяртаю назад! Цяпер ніколі не спазняюся! А каб раней штосьці адбылося — падганю!

Успомніла: праз дзве гадзіны па тэлевізары мульцік. Чаму праз дзве? Зараз павінен быць! І я сказала:

— Мілы гадзіннічак! Загадаем, каб

**( Працяг на стар. 10 )**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**ВІКТАР ШНІП**

* * *

Да дзяўчынкі Веранічкі
Пазляталіся сінічкі,
Бо дзяўчынка Веранічка
Шчабятуха, як сінічка.
А да хлопчыка Рыгоркі
Пазбягаліся вавёркі,
Бо маленькі наш Рыгорка
З раніцы смяецца звонка.
Толькі да плаксівай Веры
І не грукаецца ў дзверы
Нават воўк-гуляка шэры.

* * *

Скачуць жабы па балоце.
Верабейчыкі — па плоце.
Скача зайчык па паляне,
Веранічка — па дыване.
У дзяўчынкі сёння свята —
Ёй прынёс цукерак тата.

## ШТО ПРЫСНІЛАСЯ ЛІСІЦЫ І САБАКУ

У нары лісіцы
Куранятка сніцца.
Сняцца ёй прысмакі,
Добранькі сабака
Перад ёй, лісіцай,
Нібы прад царыцай,
Камароў ганяе
І людзей пужае...
А сабаку сніцца:
Да яго лісіца
Зноў прыбегла ў хату
І дала багата
Костачак цукровых,
Пернікаў мядовых.

* * *

У маленькага Рыгора
З раніцы сягоння гора.
— Што за гора? — дзед спытаў.
— Я мультфільмікі праспаў. —
Адказаў Рыгорка
І заплакаў горка.

## СІНІЦА

Як у нашым у садочку
На ігрушы, у цянёчку,
Спаць сабралася сініца.
Ды не спіцца ёй, не спіцца.
Кінуўшы свае забаўкі
Вераб'і дзяўбуць труskаўкі.




( Працяг са стар. 9 )
мульцік пачаўся.

Уключыла тэлевізар і бачу: вусаты дзядзька расказвае, як гадаваць малькоў.

Перавяла стрэлкі гадзінніка на час, калі пачынаецца мульцік.

На экране замітусіліся малькі...

Я кінулася да сцяны, дзе вісеў вялікі гадзіннік.

— У-у, абрыдлы! — замалаціла кулачкамі па сцяне. — Тэлевізар цябе слухае! Ты паказваеш час толькі для дарослых!.. Бедненькі мой гадзіннічак!

Выключыўшы тэлевізар, я выбегла на вуліцу. Тут нішто не перашкаджае, рабі, што хочацца.

Я зірнула, дзе на небе сонца, і перавяла стрэлкі наперад.

Ой, і сонца падалося наперад!

Перавяла стрэлкі далей.
І сонца падалося далей!

Радуючыся, пагнала стрэлкі так, што яны закруцілісяваўчком. Я заплюшчыла вочы. Моцна-моцна!
На зямлі наступіла ноч, зазіхацелі зоркі.
Няўжо ноч?!
Павольна расплюшчваю вочы.
Ужо не ноч, а дзень.
Няўжо той самы?.. Не, новы!.. Канечне, новы! Усё вакол іншае. Вераб'і на галінках іншыя. І я падрасла. Па гадзінніку і за адну хвілінку!
Потым захацелася бегаць. На бягу спахапілася: а што робяць стрэлкі, калі я бягу?

І яны спяшаюцца!
А калі бегчы хутчэй?
І яны хутчэй бягуць!

Яшчэ хутчэй! Як добра: можна ўбегчы ў ноч, як у цёмны лес. З ночы — у новы ранак і, крутнуўшы стрэлкі назад, вярнуцца з заўтрашняга дня. Ніхто не ведае, дзе была...

Увесь дзень я бавілася з гадзіннікам, а вечарам спытала ў бабулі:
— Сёння які дзень?
— Пятніца.
— А я сёння ў чацвяргу была! — пахвалілася я. — І ў суботу забягала.
— Як жа ты гэта робіш? — здзівілася бабуля.
— Я стала ўладаром часу! На сваім гадзінніку. Магу быць у тым дні, у якім пажадаю. Потым вяртаюся назад.

Бабуля ўсміхнулася:

— Які ж ты ўладар часу? На вячэру ўсё роўна позьнішся.
— Нарадуюся, нагуляюся, — адказала я, — і нікуды не буду пазніцца. Ніколі!

**Вісарыён Гарбук**




**ХОЦІЦЬ ПАМЫЛАК!**

— Тата, наш настаўнік казаў, каб ты больш не дапамагаў мне рабіць урокі.
— Чаму?

— Мне хоціць і тых памылак, якія я раблю сам!

**НЕ ЗАБЫЛАСЯ ПРА БРАЦІКА!**

— Чаму ты так хутка ясі шакалад? Хіба забылася, што ў цябе ёсць брацік?
— Не, не забылася. Таму і спяшаюся!

* * *

— Няўжо гэта ты навучыў папугая брыдкіх слоў?!

— Не, мама, я толькі казаў яму, якіх словаў нельга гаварыць!

* * *

— Як там, пан настаўнік, мой унучак у школе?

— Ды нічога. Толькі ўчора адпрасіўся на ваша пахаванне.

* * *

— Чаму плачаш, дзяўчынка?
— Тата ўдарыў сабе малатком аб палец.
— Добрае ў цябе сэрца. Іншая на тваім месцы магла б рассмяяцца.
— Я так і зрабіла...

* * *

— Мама, ты кажаш, што мяне прынёс бусел?
— Бусел, сынок.
— І я важыў пяць кілаграмаў?
— Пяць.
— Тады ведай: размах крылаў бусла не дазваляе падняць такі цяжар.

* * *

— Тата, атрамант многа каштуе?
— Не, сынок.
— Тады чаму ж мама злуецца, што я выліў атрамант на дыван?

**(В. Б.)**




**Добры дзень, паважаная „Зорка"!**

Піша табе вучаніца 6„Б" класа Мікашэвіцкай сярэдняй школы н-р 2 **Клімовіч Алена**. Мне адзінаццаць гадоў.

Я вельмі люблю гатаваць, асабліва пірагі. У мяне ёсць шмат сяброўак, яны таксама любяць гатаваць. І вось не цяжкі рэцэпт!

**Піро́жнае бізэ**

*Яечны бялок 3 шт., цукар 350 г.*

Бялок з трох яек і 2/3 цукру размешваць над парай, пакуль месіва не будзе цёплым. Адставіць, дабавіць астатнюю колькасць цукру і ўзбіць да густой пены. Бляху змазаць тлушчам і класці лыжкай пену ў стажкі. Запякаць на моцнам агні каля 5 хвілін, затым агонь паменшыць, каб духоўка была толькі цёплай і вынякаць яшчэ каля 50 хвілін. Цёплыя бізэ палажыць на талерку.
Смачна есці!
Я хачу мець за мяжой такую сяброўку, якая таксама любіць гатаваць.
Мой адрас:
225610, Беларусь
Брэсцкая вобл.
Лунінецкі р/н.
г. п. Мікашэвічы
вул. Першамайская
д. 87, кв. 21,

**Клімовіч Алена**

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка!"**

Хачу табе расказаць, як у нашай школе праводзілася свята вясны.

Дваццатага сакавіка, напярэдадні першага дня вясны, адбылося ў Пачатковай школе ў Нараўцы вялікае мерапрыемства. З самай раніцы вучні малодшых класаў утапілі ў рэчцы „зіму", каб яна не перашкодзіла ў конкурсе дзіцячай песні, пад загалоўкам „Песня, добрая на вясну".
Конкурс адкрыў дырэктар школы, Е. Валкавыцкі, які прадставіў спонсараў – Войта Гміны і Дырэктара банка ў Нараўцы. Галоўным арганізатарам гэтага мерапрыемства была настаўніца музыкі Аля Саевіч. Апрача моладзі з нашай школы ў конкурсе прымалі ўдзел таксама вучні з Ляшукоў. Падрыхтавалі яны аднак зусім іншую праграму, якая адбягала ад галоўнай думкі і ідэі мерапрыемства. Удзельнікаў конкурсу ацанялі ў двух катэгорыях, у залежнасці ад узросту. Журы прызнала першае месца для трох вучняў: **Касі Красоўскай** (VIII клас), **Эдыты Цепялеўскай** (VI А клас) і для **Марка Мароза** (III клас). За сваё выступленне ўсе ўдзельнікі, а было іх 26, атрымалі каштоўныя рэчавыя ўзнагароды. Ансамбль са школы ў Ляшуках атрымаў грашовую ўзнагароду. Вучні гэтай школы захапілі слухачоў не толькі сваім спевам, але таксама ігрой на інструментах, што напэўна вымагала з іх боку вялікай працы і самаахвярнасці.

Вучням з нашай школы далі акампанемент А. Лукша, Т. Валкавыцкая, А. Ігнатовіч і настаўніца А. Саевіч.

Цэлае мерапрыемства адбывалася ў гімнастычнай зале, дзе артысты выступілі на спецыяльна падрыхтаванай сцэне. Мілую атмасферу і прыемны настрой стварылі нам настаўніцы з дашкольнага аддзела, рыхтуючы цудоўную дэкарацыю.

Сам конкурс быў не толькі вельмі добрай забавай, але таксама спосабам на правядзенне свабоднага часу. Усе ўдзельнікі конкурсу вельмі выдатна паказалі свае ўменні, а мы адкрылі многа маладых талентаў. Хто ведае, можа пра іх пачуеце і вы ў недалёкай будучыні.

Нельга таксама не дадаць, што ў гэты дзень у школе прысутнічала амаль 100 % вучняў, а ў мерапрыемстве было многа і іншых удзельнікаў.

**ГАЛІНА САКОЎСКАЯ,**

**вучаніца VII б класа.**






*Дзеці выгналі на пашу сваіх коз. У Колі столькі коз, што і ў Васі, а ў Волечкі–на адну менш. Колькі коз кожнае з дзяцей павядзе дадому?*



### БАВАРСКІЯ КЛЁЦКІ

Прадукты: 200 г мукі, шклянка малака, 4 лыжкі масла, 2—3 яйкі, 5 лыжак цукровай пудры, 20—30 г дражджэй, соль па смаку, алей.

Зрабіць рошчыну з дражджэй, малака і лыжкі мукі. Малако закіпяціць з маслам, усыпаць прасеяную муку, замясіць цеста, астудзіць яго, спалучыць з яйкамі, цукрам, рошчынай, пасаліць і пакінуць, каб падрасло. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у гарачы тлушч, смажыць. Вымаць друшляковай лыжкай, пасыпаць цукровай пудрай з ванілінам.

### КЛЁЦКІ З РЫСУ

Прадукты: 100 г рысу, шклянка малака, 5 лыжак масла ці маргарыну, 2 яйкі, 150 г мукі, зеляніна пятрушкі, лыжка цертай булкі, соль па смаку.

Спаласнуць рыс, заліць кіпячым малаком з маслам, зварыць на малым агні. Астудзіць, перамяшаць з яйкамі, пасечанай зелянінай пятрушкі і прасеянай мукой, пасаліць. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у кіпячую пасоленую ваду, зварыць. Выняць друшляковай лыжкай, паліць растопленым маслам з цертай булкай.

### КЛЁЦКІ З ЯБЛЫКАМІ

Прадукты: 250 г мукі, паўшклянкі малака, 2—3 яблыкі, 3 лыжкі масла ці маргарыну, 1—2 яйкі, соль, цукар і карыца (цынамон) па смаку.

Яблыкі памыць, абабраць, спаласнуць, перарэзаць напалавіну. выняць сярэдзіну, сцерці на бурачанай тарцы. Муку прасеяць, перамяшаць з малаком, яблыкамі, растопленым маслам, яйкамі і прыправамі. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у пасолены кіпецень, зварыць. Выняць друшляковай лыжкай і пасыпаць цукрам.

### УКРАІНСКІЯ КЛЁЦКІ

Прадукты: 300 г грэцкай мукі, 100 г пшанічнай мукі, 1,5 лыжкі тлушчу для гатавання, соль па смаку, 100 г саланіны.

Грэцкую муку перамяшаць з пшанічнай, замясіць у посудзе з гарачай вадой, пасаліць і пакінуць на 1 гадзіну. Тады металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у пасолены кіпецень з тлушчам, зварыць. Зварыўшы, выняць клёцкі друшляковай лыжкай і паліць скваркамі з саланіны.

**ГАСПАДЫНЯ**

## НАША ПОШТА

У нашу рэдакцыю пазваніў чытач. Не падаў ні адрасу, ні прозвішча. Вось бяда, кажа, купіў на рынку шампанскае, а што абазначае надпіс „брют" (па-руску, вядома), не ведае.

Тут мусім прызнацца, што і мы не ведалі. Пашукалі, аднак, у энцыклапедыі і даведаліся, што шампанскае адрозніваюць па колькасці цукру: брут (ці брют — па-руску) — да 0,3 прац., самае сухое — 0,8 прац., сухое — 3 прац., паўсухое — 5 прац., паўсалодкае — 8 прац., салодкае — 10 прац.

Добра будзе Вам, наш шаноўны чытач, ведаць на будучыню. А пакуль што трымайцеся са сваім „брютом"!

**РЭДАКЦЫЯ**



## У АЛЬШТЫНСКІМ СЕКС-ШОПЕ

Аднойчы задумаў я агледзець секс-шоп — магазін, як у Амерыцы. А чаго ж там толькі няма — адзін чорт ведае! Усюды розныя рэчы, якія ў каханні даюць задавальненне. Найперш у вочы кінуліся розных размераў прылады для палавых зносін: ад маленькіх — да 30 сантыметраў, ды яшчэ з сукамі. Гадка было глядзець!

Пакупнікоў тут няшмат. Найчасцей купляюць гэтыя цацкі пажылыя мужчыны. Людзі купляюць таксама прэзерватывы, бо цяпер, апрача цяжарнасці, яшчэ баяцца гэтай новай хваробы — AIDS.

Прадаўшчык, аднак, наракае, што рэдка хто купляе тавару на 130 тысяч злотых. Робіць ён тут цэлы год і прывык ужо да ўсяго. Але спачатку дык праца яго нервавала. Усё гэта для людзей, кажа ён сёння. Во едзе, напрыклад, муж у доўгую камандзіроўку ці на экскурсію — купляе жонцы вібратар — пэўны спосаб, каб не бегала за іншымі.

Для некаторых секс яшчэ да сёння з'яўляецца тэмай „табу". Мала хто ведае, пры дапамозе якіх сродкаў можна пазбегчы цяжарнасці ці AIDSу. Але гэта ўжо іх справа, кажа прадавец. Ён жа іх усведамляць не будзе. І так, дзякуй Богу, не праследуюць ніякія „святыя", ды і ксёндз яшчэ не выкляў з амбоны.

Наслухаўся я і жаляў, і жартаў прадаўца, паківаў са зразуменнем галавою і выйшаў з секс-шопу, не даўшы прадаўцу зарабіць.

**АНДРЭЙ ГАУРЫЛЮК**
**Ольштын**

**Ад рэд.** Няяснай застаецца справа, **што** бярэ муж з сабою ў доўгую дарогу, калі пакідае жонцы вібратар, каб не бегала да іншых...




Даражэнькае Сэрцайка! Як ты думаеш, ці можна пакахаць аднаго чалавека на ўсё жыццё? Мне сёння ўжо 38 гадоў, сяброўкі мае карыстаюцца кожнай нагодай, каб „залічыць" нейкага мужчыну, бо час жа ляціць, а мне абыхто не падыходзіць. Думаю ўсё аб адным, хаця, вядома, час ад часу бываю з нейкім партнёрам.

Сяброўкі адчуваюць, што маё пачуцце да таго найдаражэйшага не прайшло. Калі пазнаёмілася з ім, мне было 27 гадоў. Ён быў на 2 гады малодшы, але... жанаты. Калі я ўбачыла яго першы раз, мне падумалася: „Якія прыгажуны ходзяць па свеце..." І не падумала нават, што ён зробіць такі ўплыў на мой лёс.

Быў якраз свабодны, бо жонка выехала на адпачынак. Дамовіліся адразу, нягледзячы на тое, што да жанатых мужчын я дагэтуль адносілася вельмі асцярожна. Цягнула да яго дзіка!

Што гэта быў за хлапец! Умеў, здаецца, усё, што толькі можа ўмець рабіць добры каханак. Пры ім я была сабой, не мусіла стыдацца, адчувала сябе свабодна. Палавыя зносіны з ім гэта было не тое слова. Гэта была паэма, сюіта, чарадзейская флейта. Першы раз мы кахаліся дзве гадзіны. Пасля — даўжэй.

Аднойчы сяброўка запыталася ў мяне: „Ты яго ведаеш?" „А што?" — занепакоілася я. „Кажуць, што, хаця ў яго ёсць жонка, дык не прапусціць ніводнай дзеўцы — ні сляпой, ні крывой. Дык ты занадта не цешся, што ён такі прыгожы!" „Ён не толькі прыгожы, ён ва ўсім цудоўны!" — хацелася крыкнуць мне, але я нічога не сказала, бо які гэта мела сэнс...

Даслоўна праз пару дзён я сустрэла свайго каханага ў магазіне з нейкай кульгавай дзяўчынай — рабілі пакупкі ў гарэлачным аддзеле. Я падыйшла і прывіталася, а ён уголас загадаў той дзяўчыне, каб ішла і сядала ў яго машыну. Пэўна, вёз яе ў сваю хату. Мне стала моташна. Я разумела, што ён не для мяне — у яго ж ёсць жонка. Не магла, аднак, пагадзіцца з думкай, што мае яшчэ іншых дзяўчат, апрача мяне. А так жа кахаў, здавалася мне, што ніхто для яго не існаваў, толькі я. Усё гэта была хлусня. Проста задавальняў свае занадта выбуялыя сексуальныя патрэбы, калі меў час і „хату".

Ад гэтага часу я не хацела больш сустракацца з ім. Кахала і цярпела, бо ён не адзываўся. Неўзабаве выехаў з жонкай у іншы горад. Ведаю, што трактаваў ён мяне як кожную дзяўчыну, з якой меў ахвоту пераспацца — ні лепш, ні горш, але пакінуў у маім жыцці незабыўны след. За той дзесятак спатканняў, суджаных нам, я зразумела, што значыць быць жанчынай. Навучыў мяне ўсяму. Пасля яго ніхто мне яшчэ так не дагадзіў, не раскахаў мяне.

**Данка**

Данка! Бываюць моцныя пачуцці, якія застаюцца на ўсё жыццё. Па-першае, ён мусіў адкрыць табе нешта новае, нязнанае табе перад гэтым, навучыў цябе многаму. Па-другое, спаняверыў цябе, патрактаваў як кожную іншую дзяўчыну, а гэта баліць і можа вярэдзіць душу доўгія гады. Кожная ж хацела б быць адзінай і каханай.

Добра, што ў пару выехаў!

**СЭРЦАЙКА**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО?..

... **Іванкі** — пачатак вёсцы даў нейкі Іванец Мікашэвіч, які пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя.

... **Кнышэвічы** — вёска, заснаваная асочнікамі Ахрымам і Марцінам Кнышэвічамі. Яны тут пасяліліся ў 1553 годзе.

...**Козлікі** — назва паходзіць ад прозвішча Арона Казловіча, які пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя.

... **Кудрычы** — пасяліўся тут пасля 1483 года нейкі Міхно Кудравы, які даў пачатак вёсцы.

... **Лянева** — узнікла ў першай палове XVI стагоддзя. Раней быў тут адзін двор, у якім жыў нейкі Жук Лянові з пляменнікамі. Вёска ўзнікла пасля таго, як вялікі літоўскі князь надзяліў гэтай зямлёю бельскага ўрадніка Афанаса Тэраховіча.

... **Міхалова** — у палове мінулага стагоддзя існавала тут суконная фабрыка Севярына Міхалоўскага.

... **Пашкоўшчына** — узнікла ў 1529 годзе як паселішча баяра Пашкі.

... **Плебанаўцы** — (Клябаншчына). У 1522 годзе заснаваны ў Крынках каталіцкі прыход, а плебану гэтага прыхода перададзена пяць пакінутых сялянскіх участкаў. Плебан заснаваў вёску, якую назвалі Плебаноўшчынай.

... **Пратасы** — назва паходзіць ад нейкага Пратаса, які пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя.

... **Рэпнікі** — пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя Мартын Рэпнікавіч, які даў пачатак вёсцы.

... **Сакі** — узніклі ў канцы XV стагоддзя, калі сюды прыбыў падданы Бельскага гарадзішча нейкі Сак з братам.

... **Сольнікі** — у канцы XV стагоддзя пасяліўся тут Станько і Марко Сольнікі, якія далі пачатак вёсцы.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**




Дарагі Астроне, разгадай як найхутчэй мае сны. Сніліся яны мне па парадку ў чарговую ноч. Мо і кепскае што мяне чакае. Першы сон. Іду, бачу: стаіць група мужчын, а каля іх чорны сабака. Я падыходжу да іх, сабака моўчкі глядзіць на мяне. Я кажу:„Ты чаго так глядзіш на мяне?" А ён і не дрогнуў. Другі сон. Мой пляменнік з жонкай ехалі, не памятаю чым. І я да іх прыселася. А трэці вось які. У маёй хаце поўна коней. Старыя коні і маладзенькія жарабяткі. Гэтыя жарабяткі скачуць, а я іх паліваю вадой, і яны яшчэ шпарчэй скачуць.

**Марыя**

Марыя! Блізкі табе чалавек мае вялікія клопаты. Гэта той чорны сабака, які глядзеў на цябе, відаць, чакаючы тваёй дапамогі. Не ведаю, ці справа датычыцца твайго пляменніка і яго жонкі. Ведаю, аднак, што ўсё скончыцца добра. За гэта гавораць тыя коні, а асабліва скачучыя жарабяткі, якіх ты палівала вадой, а яны ад гэтага скакалі яшчэ шпарчэй. Відаць, паможаш гэтаму свайму блізкаму чалавеку пераадолець цяжкасці. Усё ж такі справа не будзе, бадай, датычыць твайго пляменніка, а некага з тваёй бліжэйшай сям'і: коні ж былі ў тваёй хаце.

**АСТРОН**

# АНЕКДОТЫ

Адвакат у сваёй прамове гаворыць, каб апраўдаць свайго падапечнага:

Перад вамі высакародны, выхаваны, сумленны, цвярозы чалавек...

Падсудзімы з абурэннем спыняе яго і звяртаецца да суддзі,:

— Высокі суд, гэта проста нядобра. Я наймаў яго, каб ён бараніў мяне, а ён увесь час гаворыць аб кімсьці іншым...

* * *

Мужы размаўляюць:

— Мая жонка лічыць, што вельмі карысна есці ўсё сырое...

— Мая таксама не любіць варыць.

* * *

Набліжаецца канец кінафільма. Герой туліць да сябе дзяўчыну. Яны злучаюцца ў гарачым пацалунку.

— Чаму ж ты не можаш кахаць так, як ён? — шэпча жанчына на вуха мужу.

— Даражэнькая мая, — адказвае муж. — А ці ты ведаеш, колькі яму за гэта плоцяць?

* * *

У аўтобусе цесна. Нейкі мужчына штурхнуў другога. Той адвярнуўся, ды кажа:

— Чаго вы так пхаецеся „на хама"?
— А хто яго там ведае, на каго ў такой цеснаце натрапіш.

* * *

Пахавала баба дзеда. Сабраліся на памінкі сваякі. Уздыхаюць, нябожчыка ўсяляк хваляць.

А бабка сядзела, маўчала, потым такое сказала:

— Усё жыццё мне насуперак рабіў нябожчык. Вось і на гэты раз. Прасіла, пачакай хоць тыдзень, каб падсохла крыху. Дык не. Узяў і на зло мне ў самую бездараж памёр.

**Падборку зрабіла Я. Смяшынка**

# НІЎКА

– Глянь, мая дарагая – ужо вясна!

**Мал. А. Адамовіча.**

# ЭФЕКТ

— Добры дзень, пані Галена, — сказаў пан Анзельм. — А што такое гэта каляровая банка? Зноў „Віскас"?

— Добры дзень. Так, гэта тая ж кансерва для кошак. Кажу вам — такая смакавітая! Ем яе кожны дзень і наесціся не магу!

— Ну, паглядзіце! А я купляю „Падагра пал", ці якасьці так. Для сабак. Недарагое, смачнае, нават грызці не трэба...

— Вось менавіта! Для нас, пенсіянераў, гэта вельмі важнае. Чаго на гэтым Захадзе не прыдумаюць! Ежа для жывёлы, а лепшая чым для людзей. У „Віскасе" знаходзяцца ўсе вітаміны!

— У маёй „Падагры" таксама. Яна мае высокія пажыўныя якасці.

— А гэту сабачую ежу варыць можна?

— Так! Раблю з яе супок, гуляш, рызота...

— А я катлеткі — пальчыкі абліжаш!

— Я ем адну банку штодзень і гэтага мне поўнасцю хапае. Відаць, „Падагра" мае нават мікраэлементы, бо адчуваю сябе, быццам шчанюк!

— „Віскас" мне таксама смакуе. Сапраўды гэта цудоўная ежа!

— Мне акурат пенсіі хапае на адну банку ў дзень.

— Мне таксама. Спачатку быў у мяне нейкі ўнутраны супраціў, але калі я паспрабавала... Прысмакі, гавару вам!

— Я таксама баяўся, што мне пашкодзіць. Не пашкодзіла. Вельмі здаровая і пажыўная ежа. Вельмі!

— Ну, да новай сустрэчы!

— Да пабачэння!

Пані Галена павярнула ў вулачку, напружыла хрыбет і, мурлыкаючы, прысела ў пяску. Пан Анзельм падышоў да ўлюбёнага стаўба і энергічна задраў левую нагу...

**ЗОФІЯ СТЭЦКАЯ**
*(„Карузеля")*

**БАРСУК І ЛІСА**
**(байка)**

Даўно ўжо кажуць у народзе,
Што барсук жыве не ў згодзе
З хітрай рыжаю лісою —
Няма ладу нідзе з ёю:
Ліса — злодзей і хлуснік,
Барсук — шчыры працаўнік.
Аднойчы, агледзеўшы гару,
Пачаў там рыць сабе нару,
Да працы быў ён вельмі ахвочы,
Працаваў і ўдзень, і ўночы.
І вось нара гатова —
Навокал лес, зялёная дуброва.
Правесці ёсць дзе вольны час
І адпачыць падчас.
Ліса заўважыла нару —
Па густу ёй нара прыйшлася,
Аднойчы ў лес к гаспадару,
Здаецца, ледзве прыплялася.
„Пусці, кумок, паначаваць,
Ісці больш не магу, не маю сілы:
Старыя ногі так баляць,
Напэўна, цягнуць да магілы".
Барсук расчуліўся і падабрэў —
Лісу ў нары сваёй прыгрэў,
Лясными травамі пачаў лячыць,
Курацінай штодня карміць,
А яна ела і стагнала,
Пасля яму прапанавала:
„Схавай курацінку ў вядзерца,
А дай паспрабаваць свайго жывога
сэрца".

---

Сябрамі ворагі не стануць
І марна ты не выдыгай:
Па кроплі сэрца ўсё дастануць
Ці скажуць: сам яго аддай.

**АЛЯКСАНДРА ЕЛІСЕЕНКА**

**ГІСТОРЫЯ ПОЛЬШЧЫ**

**(у скарачэнні)**

966 — пачатак.
1772 — увайшлі рускія
1793 — увайшлі рускія.
1795 — увайшлі рускія.
1831 — рускія выйшлі, але зноў ува-йшлі.
1863 — рускія выйшлі, але зноў увайшлі.

1918 — рускія выйшлі.
1920 — увайшлі, але хутка выйшлі.
1939 — увайшлі рускія.
1945 — увайшлі рускія.
1992 — рускія гавораць, што неў-забаве выйдуць.

# РАЗЕТКА

**Управа:** 1) публічны спеў, 2) яна, 3) пятая сярод сямі, 4) кароткатэрміновы водпуск салдата, 5) смерч у Амерыцы, 6) зерне, семя, 7) „чорны чалавек", але не негр, 8) напітак п'яніцы.

**Улева:** 1) цягнуць сокі з зямлі, 2) спрытна кідае і ловіць, 3) драпежнік з плямамі, барс, 4) любіць свой народ, 5) пералік лічбовых даных, размешчаных у пэўным парадку на графах, 6) плыве праз Белавежу, 7) смак лімона, 8) гутарка, гаворка, размова.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 10. Управа:** філасаф, фекаліі, фурор, факел. **Улева:** фінал; феномен, футарал, фобія.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лявон Федарук з Рыбалаў і Лукаш Пацэвіч з Беластока. Паведамляем таксама, што за касяк з н-ра 8 узнагароду высылаем Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.

************************************************************************


Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..
Cena prenumeraty miesięcznej:
- maj - 15 000 zł.
- czerwiec - 12 000 zł
- lipiec - 14 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.